



# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

10 студзеня 2020 года №2 (1289)

18+


# Для чаго Каза валіцца долу на Каляды

Раскрываем сімвалы абраду калядавання

старонка 21

Фота Віталя НАЗАРЭВІЧА.





## У Вілейцы зноў разгромілі скейт-пляцоўку

Следчыя ўзбудзілі крымінальную справу

старонка 5

## Чытач лічыць, што закрыццё запраўкі ў Ільі – катастрофа не толькі для ільянцаў

старонка 20

ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# Як працавалі Дзяды Марозы пад прыкрыццем

МАЛАДЗЕЧНА

**Дабрачынную акцыю для дзяцей арганізавала сацыяльнае грамадскае аб'яднанне бацькоў «Бумеранг дабра».**

Уручэнне падарункаў прайшло на свяце ў Цэнтралізаванай клубнай сістэме 6 студзеня.

Дабрачынны праект задумалі для таго, каб дзеці-сіроты і дзеці з інваліднасцю Маладзечаншчыны адчулі навагодняя і калядныя цуды дзякуючы таму, што спраўдзіліся іх мары.

**Агулам дзякуючы акцыі свае падарункі атрымалі 60 дзетак.**

У снежні дзеці напісалі свае жаданні на паштоўках, якімі пасля ўпрыгожылі ёлку гандлёвага цэнтра «Спадарожнік».

### Што загадвалі дзеткі

Жаданні былі вельмі розныя. Хтосьці марыў пра расфарбоўку і алоўкі або самакат, канструктар або скейт, мячыкі ці смарт-гадзіннік. Адна дзяўчынка загадала вялікі лялечны домік, а іншая – падарожжа па Беларусі.

І абсалютна ўсе 60 пажаданняў здзейснілі.

Ахвотныя зрабіць добрую справу абіралі паштоўку дзіцяці, якому гатовыя былі падарыць цуд. Далей заставалася набыць падарунак і перадаць яго арганізатарам. А на месцы паштоўкі з пажаданнем размяшчалі ёлачнае ўпрыгажэнне з імем прыватнай асобы або арганізацыі, ад імя якой дорацць падарунак.

### Як уручалі падарункі

6 снежня для ўдзельнікаў акцыі «Бумеранг дабра» зладзіў свята.

**На ранішніку арганізавалі некалькі зон: можна было размаляваць навагоднюю цацку, пачаставацца пірожным, салодкай ватай або поп-корнам.**

Весялілі дзяцей і казачныя героі – Снягурачка з Дзедам Марозам, а таксама мышка Міні.



«Рэгіянальная газета» стала Дзедам Марозам 15-гадовага Вовы з Лебедзеўскай школы.




Вова захацеў у падарунак гульнявую клавіятуру з мышкай з падсветкамі, з якімі камп'ютарныя гульні становяцца яшчэ больш яскравымі.



Снягурачка забаўляла дзяцей гульнямі і танцамі.

Удзельнікам прапаноўвалі гульні і танцы. А пасля кожнага з удзельнікаў запрашалі да казачных персанажаў, каб уручыць жаданы імі падарунак.

Адным з 60 Дзедаў Марозаў стала «Рэгіянальная газета». Нашым героем быў 15-гадовы Вова. Ён распавёў, што ходзіць у Лебедзеўскую школу. Любіць гуляць у розныя камп'ютарныя гульні. А з новымі клавіятурай і мышкай з падсветкай гуляць будзе яшчэ весялей.

Арганізатары дзеляцца:

– Некаторыя адразу ж адправіліся за батарэйкамі, каб тут жа прывесці ў дзеянне свае самалёты, машынкі на пульце кіравання і электронныя гаджэты. Тата Мікіты прызнаўся, што з нагоды ранішніка і падарункаў у гэты дзень адмяніў дзённы сон, столькі было эмоцый і захаплення. А адна мама выказала вялікую надзею, што пра акцыю даведаецца як мага больш людзей і яна зноў паўторыцца ў наступным годзе.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



# Падняліся базавая, цэны на газ, цяпло, нагрэў вады і электрычнасць

**Ад 2020 года паднялася базавая велічыня, а таксама цэны на некаторыя камунальныя паслугі.**




Фота з архіва «Рэгіянальнай газеты».

Новы год прыйшоў з новым цэнамі на камунальныя паслугі.

### Улады ў 2020 годзе павысяць тарыфы на цеплазабеспячэнне

Ад 1 чэрвеня тарыфы на цеплазабеспячэнне – падагрэў вады і ацяпленне – вырастуць з 18,4831 да 20,6216 рубля за 1 Гкал. Гэта прадугледжанае пастановай №933 Саўміна. Падаражанне паслуг цеплазабеспячэння прадугледжанае планавым павышэннем тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі ў межах пяці долараў.

У Беларусі штогод ад 1 студзеня планава падымаюць тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі ў гэтых межах у разліку на тыпавую двухпакаёвую кватэру з трыма жыхарамі пры нарматыўным спажыванні імі паслуг.

**Тарыфы павышаюць у два этапы: ад 1 студзеня і ад 1 чэрвеня.**

### За газ і электрычнасць таксама заплацім больш

Падаражанне прадугледжанае пастановай №933 Саўміна ад 28 снежня.

Пры наяўнасці індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў цана складзе ў ацяпляльны перыяд: ад 1 студзеня да 31 мая ўключна – 0,1205 рубля за кубаметр (цяпер – 0,1143 рубля), ад 1 чэрвеня да 31 снежня ўключна – 0,1271 рубля (раней 0,119 рубля). Калі няма індывідуальных газавых прыбораў, тарыф складзе 0,4213 рубля за кубаметр газу незалежна ад сезона (раней – 0,4114 рубля).

Калі ў доме ці кватэры не выкарыстоўваюцца прыборы індывідуальнага ўліку расходу газу, але ёсць газавая пліта і цэнтралізаванае гарачае водазабеспячэнне або індывідуальны воданагравальнік (за выключэннем газавага), тарыф складзе 3,37 рубля з аднаго чалавека на месяц (раней – 3,29 рубля). Тарыф на газ там, дзе ёсць газавая пліта і індывідуальны газавы воданагравальнік, але няма цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння, будзе 9,69 рубля з аднаго жыхара (раней – 9,46 рубля). У кватэрах і дамах, дзе ёсць газавая пліта, але няма цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння і індывідуальнага газавага воданагравальніка, газ будзе каштаваць 5,48 рубля ў месяц для аднаго жыхара (раней – 5,35 рубля).

У жыллі, дзе ёсць індывідуальныя газавыя ацяпляльныя прыборы і няма прыбораў індывідуальнага ўліку расходу газу, у ацяпляльны перыяд прыйдзецца плаціць 0,5320 рубля за 1 квадратны метр агульнай плошчы на месяц (раней – 0,4874 рубля), ад 1 чэрвеня да 31 снежня – 0,5936 рубля (раней – 0,5320 рубля).

Кубаметр звадкаванага газу ў кватэрах і дамах з устаноўленымі прыборамі індывідуальнага ўліку расходу газу і індывідуальнымі газавымі ацяпляльнымі прыборамі ў ацяпляльны сезон будзе каштаваць: ад 1 студзеня да 31 мая – 1,9563 рубля (раней – 1,7993 рубля), ад 1 чэрвеня да 31 снежня – 2,1628 рубля (раней – 1,9497 рубля). Пры адсутнасці індывідуальных газавых ацяпляльных прыбораў 1 кубічны метр будзе каштаваць 1,1409 рубля (раней – 1,0970 рубля).

Калі ў доме ці кватэры не выкарыстоўваюцца прыборы індывідуальнага ўліку расходу газу, але ёсць газавая пліта і цэнтралізаванае гарачае водазабеспячэнне або індывідуальны воданагравальнік (за выключэннем газавага), тарыф звадкаванага газу складзе 3,42 рубля з аднаго чалавека на месяц (раней – 3,29 рубля ). Пры наяўнасці газавай пліты і газавага воданагравальніка і адсутнасці цэнтральнага гарачага водазабеспячэння ён будзе каштаваць 9,7 рубля (раней – 9,32 рубля). Пры наяўнасці газавай пліты, адсутнасці цэнтралізаванага гарачага водазабеспячэння і газавага воданагравальніка – 4,56 рубля з аднаго чалавека ў месяц (раней – 4,39 рубля).

Тарыф на звадкаваны газ у жыллё, дзе ёсць індывідуальныя газавыя ацяпляльныя прыборы і няма прыбораў індывідуальнага ўліку расходу газу ў ацяпляльны сезон, складзе: ад 1 студзеня да 31 мая ўключна – 6,3021 рубля за 1 квадратны метр агульнай плошчы жылога памяшкання ў месяц (раней – 5,7713 рубля), ад 1 чэрвеня да 31 снежня ўключна – 7,0314 рубля (раней – 6,3021 рубля).

Кошт аднаго кілаграма газу ў балонах вагой 21 кілаграм у межах нормаў спажывання (5 балонаў на аднаго чалавека на год) складзе 0,81 рубля (раней – 0,7788 рубля). Такі балон будзе каштаваць 17 рублёў (раней – 16,35 рубля). Пры поўным тарыфе (2,1304 рубля за кілаграм) такі балон ад 1 студзеня абыдзецца ў 44,7 рубля. Раней ён каштаваў 37,35 рубля.

А яшчэ ў мінулым нумары мы пісалі, што ад 2020 года вырастуць тарыфы на электрычнасць.

### Павысілася базавая, а з ёй – дапамогі і штрафы

Ад 1 студзеня базавая велічыня складае 27 рублёў. Да базавай прывязаныя грашовыя дапамогі, стыпендыі і штрафы.

**За безбілетны праезд у грамадскім транспарце цяпер будуць плаціць – 13 рублёў, 50 капеек – палову базавай.**

Ехаць без білета ў прыгарадным ці міжгародні транспарце, а таксама ў цягніках даражэй – ад 18,9 да 27 рублёў.

Першае перавышэнне хуткасці ў новым годзе на 10-20 кіламетраў у гадзіну абыдзецца ў 27 рублёў. Паўторныя перавышэнні хуткаснага рэжыму цягам года будуць каштаваць да 405 рублёў або парушальніка могуць на год пазбавіць пасведчання кіроўцы.

За лаянку ў грамадскім месцы парушальнік заплаціць ад 54 да 810 рублёў.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 3.01.20 | 9.01.20 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1085 | **2.1138** |
| Еўра | 2.3637 | **2.3547** |
| Злоты, 10 | 5.5508 | **5.5445** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3982 | **3.4205** |
| Грыўня, 100 | 8.8966 | **8.8769** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 31.12.19 | 8.01.20 |
| Еўра | 2.3350/2.3800 | **2.3400/2.3700** |
| Долар ЗША | 2.0950/2.1300 | **2.1050/2.1300** |
| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
| ПРАДУКТЫ | 31.12.19 | 8.01.20 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,87 | **19,87** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,44 | **7,44** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **–** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,95 | **–** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,15 | **6,15** |
| Скумбрыя с/с, 1 кг | 9,80 | **9,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,60 | **15,60** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,30 | **2,30** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,85 | **1,75** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,10 | **2,10** |
| Агуркі, 1 кг | 5,90 | **4,90** |
| Баклажаны, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Бульба, 1 кг | 0,55 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Капуста, 1 кг | 0,45 | **0,60** |
| Капуста пекінская, 1 кг | – | **2,60** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Памідоры, 1 кг | 3,95 | **3,90** |
| Перац, 1 кг | 6,50 | **5,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,80 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | **6,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,80 | **3,90** |
| Бананы, 1 кг | 2,70 | **–** |
| Вінаград, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Гранат, 1 кг | 4,30 | **4,30** |
| Грэцкі арэх цэлы, 1 кг | 6,90 | **7,00** |
| Грушы, 1 кг | 3,20 | **3,30** |
| Ківі, 1 кг | 3,90 | **3,95** |
| Лімон, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Хурма, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Чарнасліў б/к, 1 кг | 6,50 | **5,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,90 | **1,90** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## На Ашмяншчыне ў агні загінулі бацька з сынам

6 студзеня каля сямі раніцы ашмянскім выратавальнікам паведамілі пра пажар у вёсцы Бярвенцы.

Там гарэў жылы дом. Агонь знішчыў дах, перакрыцці, пашкодзіў маёмасць і сцены. На ложку ў жылым пакоі выратавальнікі знайшлі загінулага гаспадара дома. У суседнім пакоі пад рэшткамі будаўнічых канструкцый – яго загінулага сына. Прычыну пажару высвятляюць.

**Гродзенскае абласное ўпраўленне МНС.**

## У Вілейцы гарэў будынак. Каму ён належыць, пакуль не ведаюць

Пажар здарыўся 5 студзеня каля 23:00.

– Патэлефанавалі і паведамілі, што гарыць нешта за асфальтавым заводам, – расказаў карэспандэнту галоўны спецыяліст інспекцыі нагляду і прафілактыкі Вілейскага РАНС **Дзяніс Гаўрышчук**.

Калі выратавальнікі прыехалі на месца, гарэў дах нежыдомага цаглянага будынка за асфальтавым заводам. У выніку агонь знішчыў дах і пашкодзіў будынак унутры. Прычыну пажару высвятляюць.

Як распавёў спецыяліст, будынак не выкарыстоўвалі. Пакуль невядома, чыя гэта ўласнасць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Навагодні феерверк заляцеў у акно віляйчанкі

Здарэнне адбылося вечарам 1 студзеня. У міліцыю звярнулася жыхарка шматкватэрнага дома па вуліцы Гагарына ў Вілейцы.

У двары дома запускалі феерверкі ў гонар Новага года. Адна з ракет змяніла траекторыю руху і ўляцела ў акно на першым паверсе.

Людзі не пацярпелі, удакладніў намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Мікалай Мягкоў**.

Вілейскі РАУС нагадвае, што неабходна старанна вывучаць інструкцыю перад запускам кожнага канкрэтнага віду піратэхнічных вырабаў. Кожны з іх мае асаблівасці запуску і меры бяспекі.

Ні ў якім разе не нахіляйцеся над піратэхнікай і не спрабуйце праверыць, ці падпаліць кнот яшчэ раз. Не спрацавала – значыць, не лёс! Не выкарыстоўвайце піратэхніку ў кватэрах (і ўвогуле ў памяшканнях), паблізу дамоў і машын, на невялікіх абгароджаных тэрыторыях, пры моцным ветры.

Месцы для запуску кожнага канкрэтнага вырабу павінны быць апісаныя ў інструкцыі. Выкарыстоўваць піратэхнічныя вырабы неабходна на бяспечнай для навакольных адлегласці.

**Аддзел інфармацыі.**

## У навагоднюю ноч на Вілейшчыне затрымалі нецвярозага кіроўцу

У навагоднюю ноч падчас рэйду на аўтадарозе Барысаў-Ашмяны супрацоўнікі Вілейскай ДАІ затрымалі нецвярозага кіроўцу на аўтамабілі «Фіят».

Гэта быў 39-гадовы жыхар Маладзечна. Ён патлумачыў, што ехаў у госці на Смаргоншчыну. Меддаследаванне паказала, што кіроўца нецвярозы. Высветлілася, што мужчына ў 2016 годзе ўжо пазбаўляўся правоў, але экзамены так і не перездаў, распавялі ў Вілейскім РАУС.

На мужчыну склалі тры пратаколы: за кіраванне ў нецвярозым стане, за кіраванне без правоў і за адсутнасць тэхагляду.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота 015.by.

Хлопец параніў нажом двух супрацоўнікаў МУС, якія прыбылі яго затрымаць.

# Ураджэнец Смаргоні напаў з нажом на міліцыянераў у Верхнядзвінску

**Раніцай 1 студзеня ў Віцебскай вобласці затрымалі 18-гадовага хлопца, які напаў на міліцыянераў з нажом.**

Незадоўга да інцыдэнту малады чалавек апублікаваў свой маніфест. Афіцыйнай інфармацыі пра яго асобу няма, але як высветліў TUT.BY, хлопец вучыўся ў Полацку і незадоўга да інцыдэнту яго адлічылі з універсітэта за тое, што не хадзіў на заняткі. 18-гадовы хлопец Глеб Т. родам са Смаргоні.

Летась ён скончыў адну з мясцовых школ, быў алімпіяднікам па гісторыі. У гэтай школе ён вучыўся толькі апошнія два гады, у ваенна-патрыятычным класе. Адзін з яго аднакласнікаў распавёў, што Глеб вельмі разумны малады чалавек, начытаны, юрыдычна падкаваны, у яго добрыя прамоўніцкія дадзеныя.

Распавядаюць, што Глеб вучыўся ў мясцовай музычнай школе, цікавіўся музыкай, любіў лазіць па дахах, але ўсюды хадзіў адзін. Былы класны кіраўнік хлопца **Алена Яўгенаўна** адзначыла, што ён сапраўды добра ведаў гісторыю. Але да вывучэння прадметаў у школе ставіўся выбарачна, асноўную ўвагу канцэнтраваў на вывучэнні таго, што яму было цікава. Менавіта таму па адных прадметах у яго былі высокія адзнакі, а па іншых – не вельмі.

– Ён сапраўды гэтак жа сябе паводзіў і ў жыцці: калі нешта яму цікава, ён рабіў, калі ён унутрана гэтага не прымаў, яго было немагчыма прымусіць, – тлумачыць яна.

Класны кіраўнік адзначае, што ў школе ў яго ніколі не было ніякіх канфліктаў, прыводаў у міліцыю, але ён быў замкнёны чалавек.

Бацькі хлопца ў разводзе. Глеб жыў з мамай, але аднакласнікі кажуць, што з бацькам малады чалавек адносіны падтрымліваў. Яго мама працуе педагогам у адной са школ Маладзечанскага раёна. Бацька – прадпрымальнік, валодае некалькімі крамамі.

Па дадзеных следства, малады чалавек 1 студзеня груба парушаў грамадскі парадак каля Верхнядзвінскага аддзялення Дэпартамента аховы МУС. Дзяжурны паведаміў аб гэтым у міліцыю.

Падчас затрымання малады чалавек аказаў супраціў і прычыніў нажавыя раненні двум супрацоўнікам органаў унутраных спраў, якія прыбылі на выклік. Супрацоўнікаў МУС даставілі ў бальніцу, цяпер іх жыццю і здароўю нічога не пагражае. Хлопец паспеў кінуць на тэрыторыю аддзялення Дэпартамента аховы МУС дзве шкляныя ёмістасці з вадкасцю, якая мае пах гаруча-змазачных матэрыялаў. У дачыненні да затрыманага следчымі прызначаная комплексная псіхолага-псіхіятрычная экспертыза.

Верхнядзвінскі раённы аддзел Следчага камітэта распачаў крымінальную справу па ч. 1 арт. 14, ст. 362 (Замах на забойства супрацоўнікаў органаў унутраных спраў).

**Паводле tut.by.**

● УВАГА! ВЫШУК

## Маладзечанская міліцыя і валанцёры шукаюць жыхара Палачанаў

Міліцыя Маладзечна і пошукавы атрад «Анёл Паўночны Захад» шукаюць 56-гадовага жыхара Палачанаў **Уладзіміра Юр'евіча Козела**.

1 студзеня мужчына выйшаў з дому каля 13:00 і знік.

Прыкметы: рост каля 170 сантыметраў, нармальнага целаскладу, блакітныя вочы, сівыя валасы, з лысінай.

Быў апрануты: рабочая куртка з сіняй устаўкай і флікерам, цёмныя штаны і берцы.

Тэлефоны для тых, хто ведае пра месцазнаходжанне Уладзіміра



Козела: 8 (029) 181 71 29, 8 (025) 959 36 48 або 102.

**Пошукавы атрад «Анёл Паўночны Захад».**

## Хлопец забыўся мабільнік на запраўцы ў Астраўцы, а вярнуўшыся, не знайшоў яго

25 снежня ў Астравецкі РАУС звярнуўся 21-гадовы мясцовы жыхар. Малады чалавек паведаміў, што некаторы час таму ён пакінуў свой мабільны тэлефон Huawei Y3 на аўтазаправачнай станцыі ў горадзе Астравец. Праз некаторы час грамадзянін вярнуўся, але мабільнага на месцы ўжо не было.

На паведамленне аб крадзяжы выбыла следча-аператыўная група, у складзе якой былі і аператыўнікі крымінальнага вышуку Астравецкага РАУС.

Праваахоўнікі ўстанавілі асобу падазраванага – 22-гадовага жыхара Астравецкага раёна. У яго канфіскавалі скрадзены мабільны тэлефон.

**Паводле УУС Гродна.**

## У Маладзечанскім раёне гарэлі лазня і цялятнік

У калядныя выхадныя на тэрыторыі Маладзечанскага раёна адбыліся два пажары. Аб гэтым «РГ» паведаміла старшы інспектар групы прапаганды і навучання Маладзечанскага ГРАНС **Марына Ганчарова**.

5 студзеня а 6 гадзіне ў цэнтр аператыўнага кіравання Маладзечанскага гарраяддзела па надзвычайных сітуацыях паведамілі аб тым, што гарыць лазня на вуліцы Гагарына ў вёсцы Мясата.

Пасля прыбыцця да месца выкліку пажарныя ўстанавілі, што гарыць прыватная лазня адкрытым полымем, пацярпелых няма. У выніку пажару будынак выгараў знутры, дах знішчаны цалкам. Прычына пажару высвятляецца. Разглядаецца версія аб парушэнні правілаў мантажу печы, а менавіта адсутнасць супрацьпажарнай раздзелкі.

7 студзеня а 20 гадзіне галоўны заатэхнік «Хажово-Агра 2009» паведаміў у дзяжурную службу МНС аб загаранні ў цялятніку на тэрыторыі малочнатаварнай фермы «Мыслевічы». Супрацоўнікі, падраздзялення МНС, якія прыбылі да месца здарэння, устанавілі, што з-пад даху цялятніка ідзе дым. Выратавальнікі сумесна з работнікамі фермы эвакуіравалі 21 цяля. Жывёлы не пацярпелі. У выніку пажару пашкоджаны рулон саломы на плошчы 1 кв.м. Будынак цялятніка не пашкоджаны, а прычына пажару высвятляецца.

**Аддзел інфармацыі.**




Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Так выглядаў скейт-парк да пагрому.

# Невядомыя разграмілі скейт-парк, узламаўшы замок

ВІЛЕЙКА

**Пра здарэнне нам паведамілі чытачы з Вілейкі.**

Па іх словах, людзі гулялі па гарадскім парку і заўважылі адчыненую браму ў скейт-парку. Хаця на зімовы сезон яна павінна быць зачыненая.

**Калі людзі ўвайшлі ўнутр, пабачылі, што замок узламаны, а скейт-парк разгромлены.**







Фота з сацыяльных сетак.

А так – пасля.

### Скейт-пляцоўку грамілі не першы раз

Нагадаем, што гэта ўжо не першы выпадак, калі ад хуліганаў церпіць скейт-парк. Падобнае здарэнне адбылося ў маі. Аднак тады парк быў адчынены для наведвання. На зіму ж яго зачыняюць.

Тады, вясной, высветлілі, што вінаватыя ў пагроме былі вучні адной з вілейскіх школ. Вінаватыя падлеткі самі пакінулі свае кантакты, напісаўшы іх на сценах пляцоўкі.

### Вілейскія следчыя завялі крымінальную справу

Мы звязаліся з Упраўленнем Следчага камітэта па Мінскай вобласці і даведаліся, што вілейскія следчыя ўзбудзілі крымінальную справу па гэтым здарэнні.

– Жыхары Вілейкі паведамілі пра тое, што сапсаваная маёмасць на скейт-пляцоўцы.

**Невядомыя знялі з завесаў уваходную браму, трапілі на пляцоўку. Тут яны пашкодзілі некалькі святлодыёдных пражэктараў, разеткі і іншыя электрапрыборы, – расказала афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці Таццяна Беланог.**

Па яе словах, міліцыя шукае хуліганаў.

Скейт-парк знаходзіцца на балансе Вілейскай ЖКГ. Варыянт паставіць відэакамеры прадпрыемства разглядала. Але прыйшлі да высновы, што гэта дорага.

### Як у Вілейцы з'явіўся скейт-парк

Нагадаем, што скейт-парк у Вілейцы адкрылі летам 2016 года. Зрабіць яго на месцы старой танцпляцоўкі стала магчымым дзякуючы таму, што годам раней Вілейка выйграла 18 тысяч долараў у конкурсе мясцовых ініцыятыў у рамках праекта міжнароднай тэхнічнай дапамогі ЕС ПРААН «Садзейнічанне развіццю на мясцовым узроўні ў Рэспубліцы Беларусь».

**За гэтыя грошы ў горадзе правялі фестываль ПРААН «Энергія маладосці» і пабудавалі скейт-парк. Да праектных грошай дадалі сродкі дабрачыннага фонду імя Еўфрасінні Полацкай і аднаго з суботнікаў.**

Будаваць скейт-пляцоўку для моладзі дапамагалі мясцовыя прадпрыемствы.

Ад 2016 года на пляцоўцы праводзяць розныя моладзевыя мерапрыемствы: фестывалі, канцэрты, спаборніцтвы на скейтах і самакатах.

**А на спаборніцтвы прыходзяць не толькі вілейскія скейтары, а прыязджаюць людзі з Маладзечна, Мінска і іншых гарадоў.**

У гутарках з карэспандэнтам мінчане часам адзначалі, што такой пляцоўкі для скейтараў няма ў Мінску.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Пісьменніка-класіка могуць перапахаваць у Беларусі

ВІЛЕЙКА

Гаворка ідзе пра творцу першай паловы 20 стагоддзя Змітрака Бядулю. У ешыбот – школу яўрэйскіх святароў – у Даўгінаве ён паступае 12-гадовым хлопчыкам. Праз год пераходзіць у такую ж установу ў Ілью, дзе вучыўся ад 1899 да 1901 года.

Ад Ільі да роднай вёскі Пасадзец, што на Лагойшчыне, было бліжэй і зручней дабірацца. У мястэчку разам з іншымі прыезджымі навучэнцамі Самуіл харчаваўся ў сем'ях мясцовых яўрэяў.

У 2016 годзе на тэрыторыі Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаца адкрылі мемарыяльную дошку, прысвечаную пісьменніку.

Сёлета, магчыма, ужо вясной, класіка беларускай літаратуры, пісьменніка і паэта збіраюцца перапахаваць у Беларусі. Пра гэта расказаў «Свабодзе» **Аляксандр Сапега**, прэзідэнт дабрачыннага фонду Марыі Магдалены Радзівіл і кіраўнік Асацыяцыі беларусаў Швейцарыі, якому даверылі арганізаваць перапахаванне.

Ініцыятыва перапахавання належыць сыну Змітрака Бядулі – 86-гадоваму **Яфіму Самуілавічу**. Ён жыве ў Мінску і ўжо не можа ляцець на бацькаву магілу ў Казахстан. Міністэрства замежных спраў Беларусі, ганаровы консул і амбасада Беларусі ў Швейцарыі дапамагаюць Аляксандру Сапегу ў арганізацыі перапахавання фінансава і арганізацыйна.

Перапахаванне ў Мінску плануюць зрабіць публічным, каб развітацца маглі ўсе ахвочыя. Дакладнае месца перапахавання яшчэ не вызначылі.

Ідэю перапахаваць Змітрака Бядулю ў Беларусі агучыў у 2017 годзе грамадскі дзеяч **Глеб Лабадзенка**, ідэю падтрымалі сын і ўнук пісьменніка. Літаратар памёр у 1941 годзе па дарозе ў эвакуацыю недалёка ад горада Уральска ў Казахстане.

**Аддзел інфармацыі.**

## Павіншавалі пастаяльцаў псіхаңеўралагічнага дома-інтэрната

МАЛАДЗЕЧНА

Ідэя правесці дабрачынную акцыю ўзнікла ў падлеткаў – маладзечанцаў **Арыны Тархан** і яе сябра **Ягора Туніка**. Увасобіць добрую справу дапамаглі дарослыя.

29 снежня ў «Рэдбары» арганізацыя NSNL і пярвічная арганізацыя «Надзея» БелАПДіМІ правялі інклюзіўны Новы год. Падчас мерапрыемства сабралі падарункі для дзяцей у санаторную школу-інтэрнат і для дарослых у псіханеўралагічны дом-інтэрнат у Маладзечне.

4 студзеня актывісты наведалі псіханеўралагічны дом-інтэрнат і перадалі падарункі.

– Сустрэлі нас вельмі цёпла, запрасілі ў актавую залу. Сюды ж прыйшлі і пастаяльцы. Пачулі шмат цёплых слоў, нібы абмяняліся энергіяй на цэлы год. Цяпер бачым будучыню ў сваёй дзейнасці, – падзяліліся арганізатары. – Вялікі дзякуй за цёплы прыём дырэктару установы **Уладзіміру Кутаеву**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На аўтатрасах рэгіёна павялічылі дапушчальную хуткасць

На ўчастках дзвюх трас, што праходзяць па рэгіёне, павялічылі дапушчальную хуткасць, камеры фотафіксацыі пераналадзілі ў канцы снежня. Паведамілі ў СЗАТ «Бяспечныя дарогі Беларусі».

Пераналадзілі датчыкі кантролю хуткасці на ўчастках трас Р58 Мінск – Калачы – Мядзел і Р28 Мінск – Маладзечна – Нарач. Хуткасць павялічаная ад 21 снежня на Р58 ад раёна прымыкання трасы да МКАД (восьмы кіламетр) да павароту на Р80 (амаль 20 кіламетр аўтадарогі) – легкавушкам можна ехаць да 120 км/г, а грузавікам – да 100 км/г.

**Паводле БелТА.**

## Назвалі раёны, дзе нялёгка знайсці працу

МАЛАДЗЕЧНА
МЯДЗЕЛ
ВІЛЕЙКА

У пастанове Савета Міністраў №921 ад 26 снежня «Аб задачах сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2020 год» пералічаныя раёны, дзе напружаная сітуацыя з працаўладкаваннем. У спісе ёсць і наш рэгіён.

Усяго тут 29 раёнаў. З нашага рэгіёна – Маладзечанскі, Мядзельскі і Вілейскі. Найбольш праблемных рэгіёнаў – на Віцебшчыне, найменш – на Гродзеншчыне.

**Паводле pravo.by.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае




* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** |
| | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дыскі жалезныя R14 (4x108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• Запчасткі для Ford Escort (1995-2000): капот, фара, задняя ліхтары (універсал), люстэрка, упускны калектар, інжэктар (1.6 Zetec), дажджавік. Усё ў добрым стане, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра альбо абмяняю на Мінск. Еўрарамонт. Т. (8-025) 5296374.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Першамайскай, 35 000 рублёў. Т. (8-029) 8785936, (8-029) 7620968.*

• Гараж у ГК-24 Маладзечна, р-н «Электрамодуля». Цана 14 700 рублёў. Т. (8-029) 6148247.

• Гараж у ГК-13 Маладзечна, вул.Міру. Т. (8-029) 1575292.*

## ПАСЛУГІ



### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Грузчык акажа дапамогу. Т. (8-029) 876-16-12.*

• Зборка мэблі. Т. (8-029) 876-16-12.*

• Кубак з вашым фота – 9 руб. Ёсць кубак з відамі Смаргоні – 6 руб. Смаргонь, вул. Танкістаў,8. ІП Улан Р.В. УНП 690288442. Т. (8-01592) 44717.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Козы высакаўдойныя акотныя. Цана дагаворная. Т. (8-044) 7462476.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар Т-16 з дакументамі на поўным ходзе, у ідэальным стане. Самазвал. Т. (8-044) 4668615.

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Нясправўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

### ЗГУБЛЕНА

• Пасведчанне ІП на імя Наркевіч Наталлі Мікалаеўны прашу лічыць несапраўдным у сувязі з яго стратай.

## ПРАЦА

### ШУКАЮ ПРАЦУ

• Аўтакарбюратаршчык, монаўпрыск (усе аўто) шукае разовую працу. Т. (8-029) 7439322.

# Заходняя Бярэзіна – непрыкметная, а Іслач прыцягвае чысцінёй вады

**У нашым рэгіёне няма вялікіх рэк. Пераважна тут пачынаюцца і працякаюць прытокі, што ўпадаюць у Нёман.**

На слыху па заслугах Вілія. Вядомасць ёй надаюць такія фактары, як падарожжа графа Тышкевіча па ёй, Вілейскае вадасховішча, што праз канал забяспечвае сталіцу вадой.

**А яшчэ яна прыцягвае аматараў рыбалкі і адпачынку.**

Акрамя Віліі, у нашым рэгіёне вельмі прыцягальная Іслач. З-за чысціню вады і з-за таго, што працякае праз Налібоцкую пушчу.

### Уша насупраць Раманаў цячэ па канаве

У тых месцах, дзе я жыву, а гэта Навасёлкі-1 Маладзечанскага раёна, вытокі дзвюх рэчак – Ушы і Заходняй Бярэзіны. Праўда, адлегласць ад майго дому да вытокаў кіламетры тры.

**Пішуць больш пра Ушу, перважна ў крытычных, змрочных тонах пра яе стан.**

Успамінаецца адзін апавед дачніка на прыпынку электрацягніка «Раманы» . У канцы 1960-х суразмоўца аказаўся ўдзельнікам меліярацыйных работ уздоўж гэтай ракі. Правялі работы ад вёскі Уша-2 да месца насупраць вёскі Раманы.

**І тут рака знікла з вачэй. І вада з'яўлялася на паверхні толькі цераз некалькі соцень метраў, ужо бліжэй, насупраць вёскі Пазнякі.**

Паехалі ў свой інстытут меліярацыі раіцца, што рабіць. Супрацоўнік з досведам доўга смяяўся і сказаў, што такое бывае. І параекамендаваў выкапаць канаву ў накірунку цячэння ракі. З тых часоў рака і цячэ па той канаве, а натуральнае рэчышча не аднаўлялася.

### Заходняя Бярэзіна – трэці прыток Нёмана

Працякае непадалёк ад майго дома і Заходняя Бярэзіна. Гэта рэчка па даўжыні і запасах вады з'яўляецца трэцім прытокам Нёмана, пасля Віліі і Шчары.

**Даўжыня яе складае 226 кіламетраў. І нават Іслач упадае ў яе.**

Працякае яна праз два раёны Мінскай вобласці – Маладзечанскі і Валожынскі – і Іўеўскі Гродзенскай вобласці.

Вельмі непрыкметная рэчка. Ні табе крутых берагоў, ні буйных населеных пунктаў паблізу. Больш-менш паўнаводная толькі ў сваім вусці, перад упадзеннем у Нёман.




Заходняя Бярэзіна.

**На вялікі жаль, рака пакуль не стала натхненнем для складання вершаў, песень, паэм. А гістарычныя падзеі, што адбываліся тут, заслугоўваюць гэтага.**

Больш за дзесяць год таму ў «Рэгіянальнай газеце» за 13 лістапада 2009 года Сяргей **Цімошка** апісаў сваё 16-кіламетровае падарожжа з Гарадка ў Бортнікі да вытоку Заходняй Бярэзіны. Аўтар слушна заўважыў, што гэты адрэзак ракі яшчэ захаваў былую прыгажосць прыроды. Заўважыў аўтар і тое, што трава на лугах не косіцца, не косяць яе і цяпер. Ідзе забалочанасць. І да самога русла не падысці.

### Бабры

Дадалася і яшчэ адна праблема – бабры. Спачатку яны інтэнсіўна і руплівa будавалі свае грэблі на Ушы паміж Раманамі і Красным. А пасля перабраліся і на Заходнюю Бярэзіну. Адну з такіх грэбляў пабудавалі насупраць майго дома. Але мінулай вясной вада выйшла з рэчышча і затапіла лугі. І доўжылася паводка суткі. Хаця ў 1960-я гады вада не сыходзіла больш за тыдзень. Шум ракі быў чуцень далёка. А крыгаход які быў!

А тут і дня хапіла, каб размыць справу баброў. І аднаўлення грэблі не адбылося. Бабры зніклі. Што з імі сталася – невядома.

У маёй дамашняй бібліятэцы аказалася невялічкая, але даволі цікавая кніжачка С. Турэцкага «Па верхняму Нёману і Налібоцкай пушчы». Выдавецтва «Полымя» 1988 года, тыраж 12 тысяч асобнікаў. У ёй аўтар з пазіцыі турызму апісвае рэкі-прытокі Нёмана. У тым ліку і Заходнюю Бярэзіну. Канешне, прайшло ўжо за 30 гадоў, нейкія змены са станам ракі адбываюцца.

### Пытанні да адпаведных службаў

Сваім артыкулам я хачу звярнуць увагу на наша багацце. І калі пытанні чысціні і забруджанасці вады знаходзяцца на кантролі адпаведных службаў, то хацелася б даведацца, ці праведзеная пашпартызацыя хаця б асноўных крыніц ракі. Ці праводзяцца спецыялістамі агляды рэк, і калі праводзяцца, то як: у цэлым па ўсёй рэчцы ці адрэзкамі па раёнах.

**Іосіф ПАЎКАЛАС,**
**вёска Навасёлкі-1**
**Маладзечанскага раёна.**

# Каго мы страцілі ў 2019 годзе

**2019 стаў не толькі годам набыткаў, але і годам страт. Прыгадаем, каго мы страцілі летась.**

У студзені ў Вілейцы памёр **Уладзімір Малярчук**, грамадскі актывіст, сябра вілейскай суполкі таварыства «Ахова помнікаў Беларусі». Уладзімір Архіпавіч моцна хварэў. Ён быў сябрам нашай рэдакцыі.

У красавіку не стала ўраджэнца Мядзельшчыны, жыхара Солаў **Мар'яна Дуксы**, беларускага паэта, празаіка.

У кастрычніку мы даведаліся, што ў Мінску памерла **Галіна Юркойць**, маці краязнаўца **Алеся Юркойця**. У сталіцы ёй рабілі аперацыю.

Алесь Юркойць у сярэдзіне 1990-х гадоў працаваў настаўнікам геаграфіі ў Вілейцы. Шмат як краязнаўца зрабіў для Астравеччыны, выступаў супраць будаўніцтва Беларускай АЭС у Астраўцы. У 2017-м ён быў асуджаны на сем гадоў па справе «ашмянскіх мытнікаў». Цяпер за кратамі. Галіну Аляксандраўну пахавалі ў Варнянах. Сына яна не дачакалася.

А на пачатку лістапада не стала **Серафімы Шабовіч**, маці паэта, ураджэнка вёскі Бадзені, што на Мядзельшчыне, **Міколы Шабовіча**.

На 62-м годзе жыцця пасля цяжкай хваробы памёр наш калега, заснавальнік і галоўны рэдактар недзяржаўнай «Газеты Слонімскай», адзін з лідараў рэгіянальнага грамадска-палітычнага друку Беларусі **Віктар Валадашчук**.

**Спадар Віктар кіраваў газетай ад года яе заснавання – 1997, быў паплечнікам усіх незалежных журналістаў Беларусі.**

Не стала настаўніка матэматыкі з Маладзечна **Вікенція Сіроты**. Ён працаваў у гімназіі №7. Да гэтага кіраваў сярэдняй школай №9 у Маладзечне. Калі мэрам Маладзечна быў **Генадзь Карпенка**, Сірота загадваў аддзелам адукацыі гарвыканкама.

25 лістапада пайшоў з жыцця **Юрась Церабун**, наш пазаштатны аўтар. Шмат гадоў ён быў выкладчыкам цымбалаў у Маладзечне. У 2018 годзе ў Палацы культуры адбылася выстава яго графікі. Церабун нарадзіўся ў 1944 годзе на Беласточчыне на тэрыторыі сённяшняй Польшчы. Вырас у Смаргоні, куды пасля вайны рэпатрыяваліся яго бацькі разам з дзецьмі.

На 73-м годзе сышоў з жыцця адзін з заснавальнікаў смаргонскага футбольнага клуба, начальнік каманды ад 2006 да 2011 года, **Мікалай Фастаў**. Ва ўзросце 93 гадоў не стала легендарнага дыктара **Іллі Кургана**.

Акадэмік **Жарэс Алфёраў**, беларус, знакаміты фізік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі памёр на 89 годзе жыцця. Алфёраў атрымаў Нобелеўскую прэмію па фізіцы ў 2000 годзе за распрацоўку паўправадніковых гетэраструктур і стварэнне хуткіх опта- і мікраэлектронных кампанентаў. Яго даследаванні адыгралі вялікую ролю ў інфарматыцы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



# Каляндар канфесій на 2020 год

## Праваслаўны каляндар

14 студзеня – Абразанне Гасподняе

19 студзеня – Богаяўленне, або Вадохрышча

25 студзеня – Дзень вялікапакутніцы Тацццяны, ці Тацццянін дзень

15 лютага – Стрэчанне Гасподняе, або Грамніцы

1 сакавіка – Даравальная нядзеля

2 сакавіка – пачатак Вялікага посту

22 сакавіка – Сорак святых, альбо Дзень усіх святых

30 сакавіка – Дзень святога Аляксея, ці Цёплага Аляксея

7 красавіка – Дабравешчанне Прасвятой Багародзіцы

12 красавіка – Уваход Гасподні ў Іерусалім (Вербніца)

19 красавіка – Вялікдзень, або Светлае Уваскрэсенне Хрыстова

6 мая – Вялікапакутніка Георгія Перамоганосца

22 мая – Дзень Мікалая Цудатворца

24 мая – Дзень роўнаапостальных Кірылы і Мяфодзія

28 мая – Ушэсце Гасподняе

7 чэрвеня – Святая Тройца, або Пяцідзесятніца

7 ліпеня – Нараджэнне Іаана Прадцечы, ці Іванаў дзень

12 ліпеня – Дзень святых апосталаў Пятра і Паўла

2 жніўня – Ільін дзень

14 жніўня – Мядовы Спас, ці Макавей

19 жніўня – Праабражэнне Гасподняе, або Яблычны Спас

28 жніўня – Успенне Прасвятой Багародзіцы

29 жніўня – Арэхавы Спас

11 верасня – Усячэнне галавы Іаана Прадцечы

19 верасня – Міхайлаў цуд

21 верасня – Нараджэнне Прасвятой Багародзіцы

27 верасня – Узвіжанне Крыжа Гасподняга

30 верасня – Дзень памяці пакутніц Веры, Надзеі, Любові і маці іх Сафіі.

14 кастрычніка – Пакроў Прасвятой Багародзіцы

7 лістапада – Дзімітраўская бацькоўская субота

10 лістапада – Параскева Пятніца (Дзень памяці пакутніцы Параскевы, нарачонай Пятніца)

21 лістапада – Дзень святога Міхаіла

28 лістапада – пачатак шматдзённага Каляднага паста

4 снежня – Уводзенне ў храм Прасвятой Багародзіцы

7 снежня – Дзень памяці вялікапакутніцы Кацярыны

13 снежня – Дзень святога Андрэя Першазваннага

17 снежня – Дзень вялікапакутніцы Варвары

18 снежня – Дзень звышгоднага Савы

19 снежня – Дзень святога Мікалая

22 снежня – Дзень святой Ганны

**Пасты**

2 сакавіка-18 красавіка – Вялікі пост

15 чэрвеня-11 ліпеня – Пятроў пост

14-27 жніўня – Успенскі пост

28 лістапада 2020 – 6 студзеня 2021 – Калядны пост

**Бацькоўскія суботы**

4 лютага – памінавенне ўсіх загінулых, пацярпелых за веру

22 лютага – сусветная бацькоўская субота

14 сакавіка – субота 2 сядміцы Вялікага посту

21 сакавіка — субота 3 сядміцы Вялікага посту

28 сакавіка – субота 4 сядміцы Вялікага посту

9 мая – памінавенне загінулых воінаў

28 красавіка – Радаўніца

6 чэрвеня – Троіцкая бацькоўская субота

7 лістапада – Дзімітрыеўская бацькоўская субота

## Каталіцкі каляндар

Кожны каталік павінны ўдзельнічаць у Святой імшы **кожную нядзелю,** а таксама ў наступныя ўрачыстасці і святы:

12 студзеня – Хрышчэнне

2 лютага – Ахвяраванне Пана

22 лютага – Катэдры святога Пятра

26 лютага – Папялец

19 сакавіка – Святога Юзафа

25 сакавіка – Звеставанне Пана

5 красавіка – Вербная нядзеля

12 красавіка – Вялікдзень

21 мая – Унебаўшэсце

31 мая – Спасланне Духа Святога

11 чэрвеня – Цела і Крыві Пана

24 чэрвеня – Нараджэнне святога Яна Хрысціцеля

29 чэрвеня – Святых апосталаў Пятра і Паўла

2 ліпеня – Найсвяцейшай Панны Марыі Будслаўскай

6 жніўня – Перамяненне Пана

15 жніўня – Унебаўзяцце Найсвяцейшай Панны Марыі

14 верасня – Узвышэнне Святога Крыжа

1 лістапада – Усіх Святых

29 лістапада – Першая нядзеля адвенту

8 снежня – Беззаганнага зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі

25 снежня – нараджэнне Пана

## Мусульманскі каляндар (1441-1442 гг. па Хіджры)

26 студзеня – 1 джумада аль-ахіра

28 студзеня – пакуты Фацімы

25 лютага – 1 раджаб

27 лютага – Ноч Рагаіб

2 сакавіка – Хіджра ў Эфіопію

8 сакавіка – Дзень нараджэння імама Алі

20 сакавіка – Наўруз

22 сакавіка – Ісра і мірадж

8 красавіка – ноч Бараат

9 красавіка – Дзень нараджэння імама Махдзі

24 красавіка – Рамадан, пачатак мусульманскага посту. Умра – малое паломніцтва

10 мая – Бітва пры Бадры

13 мая – Дзень фатх Мекка

14 мая – Пакуты імама Алі

19 мая – Ноч магутнасці і прадвызначэння

22 мая – Джумуат аль-Віда

24 мая – Разгавенне, Рамадан Байран

30 ліпеня – Дзень Арафат

31 ліпеня – Свята ахвярапрынашэння – Курбан-Байрам. Заканчэнне вялікага паломніцтва ў Мекку

20 жніўня – пачатак Новага года па Хіджры

14 кастрычніка – Ноч Хіджры

16 кастрычніка – Дзень смерці прарока Мухамеда

29 кастрычніка – Дзень нараджэння Прарока Мухамеда

## Будыйскі каляндар

10 студзеня – Махаянскі Новы год

7 лютага – Макха Буча. Дзень Сангхі

15 лютага – Дзень зыходу ў Нірвану буды Шак'ямуні (Парынірвана)

22 лютага – Рытуал ачышчэння (Дугжууба)

23 лютага – Будыйскі Новы год (Сагаалган). 15 цудаў Буды (Монхам Чхенма). Тыбецкі Новы год (Лосар)

8 сакавіка – Дзень нараджэння Бодхісатвы Авалакіташвары. Чотрул Дзючэн

7 красавіка – Тхеравадзінскі Новы год

13 красавіка – Тайскі Новы год (Сонгкран)

29 красавіка – Дзень нараджэння Буды

6 мая – Свята Калачакры. Дзень нараджэння, прасвятлення і зыходу ў Нірвану Буды (Весак)

11 мая – Дзень пахоты

5 чэрвеня – Посон

30 чэрвеня – Дзень нараджэння Гуру Рынпочэ (Падмасамбхавы)

5 ліпеня – Васа. Дзень ачышчэння. Дзень Дхармы

6 ліпеня – Дзень нараджэння Далай-Ламы

23 ліпеня – Кругазварот Майтрэі

3 жніўня – Дні памяці Архатаў.

2 верасня – Фестываль галодных духаў. Дзень памінання памерлых

1 кастрычніка – Кaціна. Паварана

30 кастрычніка – Свята Анапанасаці. Лой Кратхонг

6 лістапада – Сыходжанне Буды на Зямлю

21 лістапада – Шэсце сланоў

29 лістапада – Дзень Абаронцаў Вучэння

10 снежня – Свята тысячы лампад

21 снежня – Дзень Бодхі

## Іудзейскі каляндар (5780-5781 гг.)

21 лютага – Ту бі-Шват, Новы год дрэў

10 сакавіка – Пурым, свята выратавання яўрэяў у Персідскім заліве

8-15 красавіка – Песах

28 красавіка – Дзень памяці

29 красавіка – Дзень Незалежнасці дзяржавы Ізраіль

29 мая – Шавуот, свята даравання Торы

30 ліпеня – 9 Ава

19-20 верасня – Рош а-Шана, Новы год

28 верасня – Судны дзень

3-9 кастрычніка – Суккот

11-18 снежня – Ханука

**Склала Эмілія ХВОЯ.**

## Беларусь 1

**6.25** Існасць.

**6.50, 19.20, 21.40** Х/ф **«ЛУЧШЕ ВСЕХ».**

**8.30** Кулинарная дипломатия.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** Смысл жизни.

**9.45** Здоровье.

**10.30** Старое – новое.

**11.05** Поколение.by.

**11.30, 12.10** Х/ф **«ПО ЩУЧЬЕМУ ВЕЛЕНИЮ».**

**13.30** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.

**15.10** Краіна.

**15.40** «Кухня жизни». Кулинарная программа.

**16.15** Х/ф **«РАНЕНОЕ СЕРДЦЕ».**

**21.00** Панорама.

**23.25** Х/ф **«БЕЗ МЕНЯ».**

**0.55** День спорта.

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.30** Т/с **«ПИНГВИНЫ ИЗ МАДАГАСКАРА».**

**9.20, 21.05** Телебарометр.

**9.25** Х/ф **«РОГА И КОПЫТА».**

**10.50** Кто я?

**11.10** Копейка в копейку.

**11.40** Камень, ножницы, бумага.

**12.15** «Мир наизнанку. Бразилия». Трэвел-шоу.

**13.05** «Свадьба вслепую». Реалити-шоу.

**14.40** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

**15.35** «Когда мы дома». Скетчком Выпуск.

**16.05** Х/ф **«ПРЕДСТАВЬ СЕБЕ «.**

**17.50** «Любовь на выживание». Реалити-шоу.

**19.20** Х/ф **«БРОСОК КОБРЫ 2».**

**21.10** Спортлото 6 из 49, КЕНО.

**21.15** «Человек-невидимка». Реалити-шоу.

**22.10** Шпионский детектив «Поймай меня, если сможешь».

## Беларусь 3

**7.35** «Сіла веры».

**8.00, 14.20, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 14.40, 20.35** Гэты дзень.

**8.25** «Как львёнок и черепаха песню пели». Мультфільм.

**8.30** «Мачаха». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Жывая культура». Калядны абрад «Цары» (аграгарадок Семежава Капыльскага раёна Мінскай вобласці).

**10.25** «Беларуская кухня». Квас на мясе або грыбах з ільняным насеннем.

**10.55** «Я хачу гэта ўбачыць!».

**11.20** «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана». «Сабака Баскервіляў» [СТ].

**13.55** «Навукаманія».

**14.45** «Архітэктура Беларусі».

**15.00 Т/ф «ЖАНІХІ».**

**16.55** «Майстры і куміры». Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Аляксандр Саладуха.

**17.45** «Нябесныя ластаўкі». Мастацкі фільм.

**20.00** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць – пісьменнік Віктар Праўдзін.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Чалавек ніадкуль». Мастацкі фільм [СТ].

**22.20** «Гэта – шчасце». Спявае Аляксандр Саладуха.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** ОНТ представляет: «Марков. Ничего личного».

**7.50** «100 имён Беларуси». «Софья Ковалевская. Дилеммы великой женщины».

**9.10** «Теория заговора».

**10.05** «Наедине со всеми».

**10.55** «Видели видео?».

**13.10** Премьера. «Практика». Новый сезон.

**15.00** «Повтори!» Пародийное шоу.

**16.20** «Повтори!» Пародийное шоу Продолжение.

**17.20** «Кто хочет стать миллионером?» с Дмитрием Дибровым.

**18.50** «Сегодня вечером».

**20.00** «Наши новости». Субботний выпуск.

**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».

**21.10** «Сегодня вечером» Продолжение.

**22.50** Х/ф **«СЧАСТЛИВЫЙ МАРШРУТ».**

## СТВ

**6.10, 0.30** «Секретные территории».

**7.55** «Анфас».

**8.15** «Самая полезная программа».

**9.05** СТВ представляет: «Тайны Беларуси».

**10.00** «Минск и минчане».

**10.35** «Центральный регион».

**11.05** Документальный проект.

**11.35, 13.40, 16.40** Т/с **«МАЙОР И МАГИЯ».**

**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».

**19.55** «СТВ-спорт».

**20.05** Документальный спецпроект.

**21.45** «Засекреченные списки».

## Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».

**6.10** «Союзники».

**6.40, 7.50, 5.20** Мультфильмы.

**6.50** «Такие разные».

**7.20** «Секретные материалы».

**8.55** «Ой, мамочки».

**9.25** «Наше кино. Неувядающие. Дмитрий Харатьян».

**10.00, 16.00, 19.00** Новости.

**10.15** «Как в ресторане».

**10.45** «Мировые леди».

**11.25** Х/ф **«РОЗЫГРЫШ».**

**13.20, 16.15** Х/ф **«ЗЕЛЕНЫЙ ФУРГОН».**

**16.45, 19.15** Т/с **«СЕРДЦА ТРЕХ».**

**22.25** Х/ф **«ИГРА В ЧЕТЫРЕ РУКИ».**

**0.25** Х/ф **«МЕСТЬ И ЗАКОН».**

**3.50** Х/ф **«ВЕСЕЛЫЕ РЕБЯТА».**

## НТВ-Беларусь

**6.15** «Астропрогноз».

**6.20** Спорт-микс.

**6.30** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**7.00** «Тело человека».

**7.30** Судьба Гигантов.

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «ЧП.by: Время итогов».

**8.50** «Города Беларуси».

**9.25** Премьера. «Врачебные тайны плюс».

**10.20** Т/с **«ВТОРОЙ УБОЙНЫЙ».**

**11.50** «Еда живая и мёртвая».

**12.40** Квартирный вопрос.

**13.35** Т/с **«РАСПИСАНИЕ СУДЕБ».**

**16.25** За гранью.

**16.45** «Следствие вели…».

**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.

**20.40** Т/с **«СКОРАЯ ПОМОЩЬ».**

**0.15** Т/с **«УЧАСТКОВЫЙ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«ВЛЮБЛЕН ПО СОБСТВЕННОМУ ЖЕЛАНИЮ».**

**8.40** Х/ф **«ДОЛГАЯ ДОРОГА К СЕБЕ».**

**10.10** «Обыкновенный концерт с Эдуардом Эфировым».

**10.35** «По секрету всему свету».

**11.30** «Пятеро на одного».

**12.20** Х/ф **«СЕРДЕЧНЫХ ДЕЛ МАСТЕРА».**

**14.15** «Измайловский парк». Большой юмористический концерт.

**16.25** Х/ф **«ПОЗДНИЕ ЦВЕТЫ».**

**19.45** «Плюс-минус».

**20.00** ВЕСТИ В СУББОТУ.

**20.55** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.

**22.40** Х/ф **«СИЛЬНАЯ ТЫ».**

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 16.00** Поймай толстуху, если сможешь. **8.15** Семейка Джонсов. **10.05** Герцогиня. **12.00** Шанхайские рыцари. **14.00** Район №9. **18.00** Голодные игры. **20.25** Голодные игры: И вспыхнет пламя. **23.00** Голодные игры: Сойка-пересмешница. Часть I. **1.15** Возмездие. **3.35** Ешь, молись, люби.

### TV1000 ACTION

**7.25** Око за око. **9.40** Штурм Белого дома. **12.00** Джон Уик 2. **14.10** Немыслимое. **15.55** Киллеры. **17.35** Взрывная блондинка. **19.35** Агент Джонни Инглиш. **21.10** Вавилон Н.Э. **22.55** Французский транзит. **1.15** Титан. **3.10** Коломбиана. **5.10** Пипец.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.20** Проводник. **8.55** Привычка расставаться. **10.25** Бабло. **12.10** Менялы. **13.45** Статус: свободен. **15.35** День выборов 2. **17.30, 5.30** Война полов. **19.10** Элефант. **22.40** Мама не горюй 2. **0.40** Семь ужинов. **2.15** Жизнь впереди. **3.50** Одноклассники.ru: НаCLICKай удачу.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.30, 11.30** Т/с **«ВИКИНГИ». 12.30** Х/ф **«12 РАУНДОВ». 14.45** Х/ф **«МАКС ПЭЙН». 16.45** Х/ф **«ИНОСТРАНЕЦ». 19.00** Х/ф **«ВОЙНА». 21.15** Х/ф **«ОСАДА». 23.30** Х/ф **«ОТ КОЛЫБЕЛИ ДО МОГИЛЫ». 1.30, 2.00, 2.30, 3.00, 3.30, 4.00, 4.30, 5.00, 5.30** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 12.00, 13.00** Т/с **«ОДНА ТЕНЬ НА ДВОИХ». 14.00, 15.00** Т/с **«БРАК ПО ЗАВЕЩАНИЮ. ВОЗВРАЩЕНИЕ САНДРЫ». 20.00, 21.00** Т/с **«МЕТОД ФРЕЙДА 2». 22.00, 23.00** Т/с **«ГРОМОВЫ». 4.00, 5.00** Т/с **«ПЛАН «Б». 6.00, 7.00** Т/с **«ВЛЮБЛЕННЫЕ ЖЕНЩИНЫ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.40** Х/ф **«ДИКАЯ ШТУЧКА». 2.20** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЕ РЫЦАРИ». 4.10** Х/ф **«ДЕДУШКА ЛЕГКОГО ПОВЕДЕНИЯ». 5.45** Х/ф **«СТАРАЯ ДОБРАЯ ОРГИЯ». 7.30** Х/ф **«КРОВЬЮ И ПОТОМ: АНАБОЛИКИ». 10.00** Х/ф **«МОШЕННИКИ». 11.55** Х/ф **«ИЗ 13 В 30». 13.45** Х/ф **«ЛЮБОВЬ СЛУЧАЕТСЯ». 15.50** Х/ф **«ЭТОТ НЕЛОВКИЙ МОМЕНТ». 17.50** Х/ф **«БЕСПРЕДЕЛ В СРЕДНЕЙ ШКОЛЕ». 19.30** Х/ф **«СУТЕНЕР». 21.15** Х/ф **«ЖЕНИСЬ НА МНЕ, ЧУВАК». 23.00** Х/ф **«ЭТО ВСЕ ОНА».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.00, 1.05, 2.05, 3.05, 4.00, 5.05, 6.00, 7.00, 8.00, 9.00, 10.00, 10.55** Инквизитор. **12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.05, 17.05, 18.05, 19.05, 20.05, 21.05, 22.05, 23.05** Молодая гвардия.

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35, 23.40** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.30** Т/с **«ЕРАЛАШ». 9.45** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.05** Мультфильмы «УТИНЫЕ ИСТОРИИ». **10.25** Мультфильмы «ТИМОН И ПУМБА». **11.00** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 14.00** Х/ф **«ПЛОХИЕ ПАРНИ». 16.10** Х/ф **«ПЛОХИЕ ПАРНИ 2». 18.50** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ПАУК 2». 21.10** Х/ф **«ШТУРМ БЕЛОГО ДОМА». 0.10** Х/ф **«СУПЕР МАЙК». 2.05** Шоу «САРАНХЭ». **2.55** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **4.10** Скетч-шоу «ДАЕШЬ МОЛОДЕЖЬ». **5.00** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Теннис. WTA. Хобарт. Финал. **9.00** Теннис. WTA. Аделаида. Финал. **11.00** Биатлон. Кубок мира. Рупольдинг. Эстафета. Женщины. **12.05** Большой спорт. **12.50** Азбука спорта. **15.10** Хоккей для всех. **15.40** Мир английской премьер-лиги. **16.10** Биатлон. Кубок мира. Рупольдинг. Эстафета. Мужчины. **17.40** Вот это спорт! **17.50** Футбол. Чемпионат Англии. Манчестер Сити – Кристал Пэлас. В перерыве Спорт-центр. **19.50** Тренировочный день. **20.20** Футбол. Чемпионат Англии. Ньюкасл – Челси. В перерыве Спорт-центр. **22.20** Баскетбол. Единая лига ВТБ. Локомотив-Кубань – Цмокі-Мінск.

### EUROSPORT

**1.30** Ралли-рейд. Дакар. 12-й этап. **2.05** Теннис. Australian Open. Квалификация. Четвёртый день. **3.25, 8.30, 9.15** Теннис. ATP 250. Аделаида. 1/2 финала. **5.00** Снукер. «Мастерс». Лондон. 1/4 финала. **7.00** Горные лыжи. Кубок мира. Венген. Мужчины. Комбинация. Скоростной спуск. **7.45** Горные лыжи. Кубок мира. Венген. Мужчины. Комбинация. Слалом. **9.55** Теннис. Патрик Муратоглу. **10.25, 23.00** Теннис. ATP 250. Аделаида. Финал. **12.55** Горные лыжи. Кубок мира. Сестриере. Женщины. Слалом-гигант. 1-я попытка. **14.00** Горные лыжи. Кубок мира. Венген. Мужчины. Скоростной спуск. **16.00** Горные лыжи. Кубок мира. Сестриере. Женщины. Слалом-гигант. 2-я попытка. **17.05** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Титизее-Нойштадт. Мужчины. HS 142. Квалификация. **17.50** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Титизее-Нойштадт. Мужчины. HS 142. **19.45** Биатлон. Кубок мира. Рупольдинг. Мужчины. Эстафета. **20.30** Юношеские Зимние Олимпийские игры. Лозанна. Обзор. **21.05** Автогонки. Формула Е. Сантьяго. Квалификация. **21.45** Автогонки. Формула Е. Сантьяго. Интро. **22.00** Автогонки. Формула Е. Сантьяго. Гонка.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 7.15, 14.30, 15.35, 17.00, 18.25, 2.10** Мир танков. **6.15, 9.25, 11.55, 15.20, 18.10, 22.50, 0.35, 3.35** Итоговые новости. **6.30, 7.30, 17.20, 18.45** Трасса А2. **8.20** Обновление. **8.35** АВТОбиография. **9.45, 10.45, 23.05, 0.05** Тест на «Драйве». **10.15** Все включено. **10.30, 11.25, 23.50, 1.00, 1.15** Куда уходит детство. **11.10, 23.35, 0.50** Всё включено. **11.40** Эконом-тест. Эксклюзив. **12.15, 12.40, 19.35** Гаражная команда. **13.10, 3.50** Покорители Азии. **13.40, 20.55, 1.55, 4.20** Легенды автопрома. **13.55** Сити-тестер. Эксклюзив. **14.50** Комплектация. **15.55, 21.45, 5.05** Вечер с Пикуленко. **16.40, 22.30, 5.45** Тайный покупатель. **20.25, 1.25** Покорители Азии? 2. **21.15, 4.35** Резьба по стали. **2.25** Советы юриста. **3.05, 3.20** Под микроскопом.

### EXPLORE

**6.00, 6.55, 7.50, 8.45, 9.40, 10.35, 16.20, 20.30, 21.20, 22.15, 23.05, 0.00** Речные чудовища. **11.25, 12.15** Переделка старья. **13.00, 13.30** Полигон. **14.00, 14.45** Австралийские золотоискатели. **15.35, 18.55** Охотники на морских ежей. **17.15** Строительство гигантов. **18.00** Короли разрушения. **19.40** Тренировка по древним традициям. **0.50** Кинолаборатория. **1.15, 1.35, 2.00** Пиротехника: живопись огнем. **2.25, 3.10, 4.00, 4.45** Австралийские охотники на лобстеров. **5.35** Гараж: Последний приют.

### HISTORY

**6.15, 7.00, 5.45** Музейные тайны. **8.10** Невероятные изобретения. **8.40, 9.35** Запретная история. **10.30, 11.35** Первые люди. **12.40, 1.10** Великие воительницы викингов. **13.45, 14.50, 15.50, 16.55, 18.00, 19.05** Вторая мировая в цвете. **20.05, 21.05** Коварная Земля. **22.00** Замки – оплоты силы. **23.00** 5000 лет истории Нила. **0.00** Гении современного мира. **2.15, 2.40** Родовые проклятья. **3.10, 4.05, 4.55** Мифические существа.

### NATURE

**6.00, 6.25, 6.50, 7.10, 7.35, 8.00, 8.25** В поисках Фидо. **8.50, 9.50** Питомцы: дикие в душе. **10.45, 11.40, 12.30, 13.20, 14.10** Свирепые животные. **15.00** Мир природы – радио «Гиббон». **15.55** Великая рифтовая долина – дикое сердце Африки. **16.50, 17.45** Эпический Йеллоустоун. **18.45, 19.15** Самые смертоносные. **19.45** Хищные питомцы. **20.35** Земля больших кошек. **21.35** Суровая Австралия. **22.25** Речные чудовища. **23.15, 23.40, 0.05, 0.30, 0.55** Природа в кадре. **1.20, 2.10** Жуткие, настоящие и странные. **3.00, 3.50** Анатомия крупнейших животных. **4.40** Ветеринар из Йоркшира. **5.25** Путешествие по паркам.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Самые удивительные фотографии National Geographic. **6.25, 6.55, 5.10** Зона строительства. **7.20, 8.05** Остров бунтарей. **8.55** Золото в холодной воде. **9.40** Суперкар со свалки. **10.25, 2.40** Авто – SOS. **11.10** Внутри невероятной механики. **11.55** Экстремальное путешествие: Вторая мировая война. **12.45, 13.30** Осушить океан. **14.20, 15.05, 15.55** Расследования авиакатастроф. **16.45, 17.30, 18.15, 19.00, 19.45, 20.30** Последние тайны Третьего рейха. **21.10** Настольная книга диктатора. **22.00, 22.50** Секунды до катастрофы 2. **23.40, 0.25** Служба безопасности аэропорта: Первый класс. **1.10, 1.55** Нераскрытые тайны второй мировой войны. **3.30, 4.15** Инженерные идеи. **5.35** Игры разума.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 7.30, 9.00, 10.35, 12.00, 13.35, 15.05, 16.35, 17.55, 19.25, 21.00, 22.30, 23.50, 1.35, 3.10, 4.35** На охотничьей тропе. **6.25, 9.35, 12.30, 14.05, 15.35, 18.25, 19.55, 21.30, 0.20, 2.05, 3.40** Нож-помощник. **6.40, 9.50, 11.10, 12.45, 14.20, 15.50, 17.10, 18.35, 20.10, 21.45, 23.00, 0.40, 1.20, 2.15, 3.00, 3.55, 5.05, 5.45** Охотничья и рыболовная кухня. **7.00, 8.35, 10.05, 11.30, 13.00, 14.35, 16.05, 17.25, 18.55, 20.30, 22.00, 23.20, 0.50, 2.30, 4.10, 5.20** Стратегия охоты с Сергеем Астаховым. **8.00** На рыбалку с охотой.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.00, 22.00, 2.10** Дома на деревьях. **6.45, 10.40, 14.45, 18.45, 22.45, 2.50** Кухня народов СССР. **7.00, 11.00, 19.00, 23.05, 3.05** Беспокойное хозяйство. **7.30, 23.35** Праздник в дом. **8.00, 12.00, 16.00, 20.05, 0.05, 4.00** Лучки-пучки. **8.20, 12.20, 20.20, 0.25, 4.15** Дачные хитрости. **8.35, 12.35, 16.40, 20.35, 0.40, 4.45** Высший сорт. **8.50** Огород круглый год. **9.05, 15.00** Огород круглый год. **9.25, 17.25, 21.25, 1.25, 5.30** Альтернативный сад. **11.30, 15.30, 19.30, 3.35** Профпригодность. **12.55, 16.55, 20.55, 0.55, 5.00** Дачных дел мастер. **13.25** Секреты стиля. **16.20** 8 ошибок огородника. **1.55** С пылу с жару. **4.30** Травовед.

# нядзеля, 19 студзеня

## Беларусь 1

**6.25** Слово Митрополита Павла на Крещение Господне.
**6.35** Х/ф **«ЛУЧШЕ ВСЕХ».**
**8.20** Клуб редакторов.
**9.00, 12.00, 15.00** Новости.
**9.10** «Арсенал». Программа об армии.
**9.40** Истории спасения.
**10.10** «Все за стол! «.
**10.55** Родные люди.
**11.15, 12.35** Х/ф **«ПО ЩУЧЬЕМУ ВЕЛЕНИЮ».**
**12.10** Новости. Центральный регион.
**13.35** «Я знаю». Шоу-викторина для всей семьи.
**15.10** Твой город.
**15.30** Вокруг планеты.
**16.15** Маршрут построен.
**16.45** Х/ф **«СВОЙ ЧУЖОЙ СЫН».**
**19.55** «На вылет!» Развлекательно-интеллектуальное шоу.
**20.40** Навіны надвор'я.
**21.00** Главный эфир.
**22.05** Х/ф **«РАНЕНОЕ СЕРДЦЕ».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**
**8.25** Т/с **«ПИНГВИНЫ ИЗ МАДАГАСКАРА».**
**9.15, 19.40** Телебарометр.
**9.20** «Секретный миллионер». Социальное реалити-шоу.
**10.20** «Барышня-крестьянка». Реалити-шоу.
**11.10** «До свидания». Реалити-шоу.
**12.10** «Мир наизнанку. Бразилия». Трэвел-шоу.
**13.00** Шпионский детектив «Поймай меня, если сможешь».
**15.20, 20.10** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.
**16.15** «Папа попал». Реалити-шоу.
**17.55** Х/ф **«ЖЕЛЕЗНАЯ ХВАТКА».**
**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.
**21.15** Х/ф **«ЭКИПАЖ».**
**23.25** «Суперижена». Реалити-шоу.
**0.10** «Третий лишний». Реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.25** «Святыні Беларусі».
**7.50** «Размовы пра духоўнае». Хрышчэнне.
**8.00, 14.05, 20.15** Навіны культуры.
**8.20, 14.25, 20.35** Гэты дзень.
**8.25** «Хвосты». Мультфільм.
**8.40** «Чалавек ніадкуль». Мастацкі фільм [СТ].
**10.00** «Наперад у мінулае».
**10.25** «Беларуская кухня». Карп у вяршках.
**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».
**11.50** «Нябесныя ластаўкі». Мастацкі фільм.
**14.30** «Славянскі базар-2019». «Песнярам» – 50!
**15.30** «Сваімі словамі». Тэлевіктарына.
**16.10** «Майстры і куміры». Народная артыстка Беларусі Тацццяна Маркель.
**17.00** «Адвечная песня». Фольк-опера Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі паводле аднайменнай паэмы Янкі Купалы.
**18.30** «Мачаха». Мастацкі фільм [СТ].
**20.00** «Архітэктура Беларусі».
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана». «Сабака Баскервіляў» [СТ].
**23.35** «Арт-гісторыі». Ікона Божай Маці Адзігітрыя. Глядзець і бачыць.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.
**7.10** «Здоровье».
**8.05** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».
**9.10** «Воскресная проповедь».
**9.25** ОНТ представляет: «Метеогид».
**9.45** Х/ф **«КРАСАВЕЦ И ЧУДОВИЩЕ».**
**11.50** «Видели видео?».
**14.00** Х/ф **«ЖЕЛАНИЕ».**
**16.20** «Точь-в-точь».
**18.35** «Клуб Весёлых и Находчивых». Встреча выпускников.
**20.00** Контуры.
**21.20** «Клуб Весёлых и Находчивых». Встреча выпускников Продолжение.
**22.35** ОНТ представляет: «Спортклуб».
**22.55** ОНТ представляет: Группа «Дядя Ваня» и Президентский оркестр Республики Беларусь. Симфо-рок-н-рольная программа «Счастье».

## СТВ

**6.05, 0.15** «Секретные территории».
**7.50, 20.35** Документальный спецпроект.
**9.10** «Минтранс».
**10.00** «Добро пожаловаться».
**10.30** «Большой город».
**11.05** Документальный проект.
**11.35, 13.40, 16.40** Т/с **«МАЙОР И МАГИЯ».**
**13.30, 16.30** Новости «24 часа».
**19.30** «Неделя».
**22.15** «Неделя спорта».
**22.45** «Засекреченные списки».

## Мир

**6.00** «Миллион вопросов о природе».
**6.10** «Беларусь сегодня».
**6.40** Мультфильмы.
**7.50** «Культ/туризм».
**8.20** «Еще дешевле».
**8.55** «Всемирные игры разума».
**9.25** «ФазендаЛайф».
**10.00, 16.00** Новости.
**10.15** «Игра в правду».
**11.15, 16.15, 19.30, 1.00** Т/с **«ОТРАЖЕНИЕ».**
**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

## НТВ-Беларусь

**6.15** «Астропрогноз».
**6.20** Спорт-микс.
**6.30** Terra incognita. Беларусь неизвестная.
**7.00** «Тело человека».
**7.30** Судьба Гигантов.
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** Х/ф **«ГАРАЖНЫЙ ПАПА».**
**10.20** Т/с **«ВТОРОЙ УБОЙНЫЙ».**
**12.00** «Чудо техники».
**12.45** «Дачный ответ».
**13.40** Т/с **«РАСПИСАНИЕ СУДЕБ».**
**16.20** За гранью.
**16.45** «Следствие вели…».
**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.
**20.05** Х/ф **«ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ».**
**23.25** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.
**23.50** Т/с **«УЧАСТКОВЫЙ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«СИЛЬНАЯ ТЫ».**
**10.25** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».
**11.20** К 25-ЛЕТИЮ ПРОГРАММЫ «Сто к одному».
**12.40** Х/ф **«РОМАН В ПИСЬМАХ».**
**14.30, 21.40** Т/с **«ЛЮБИТЬ НЕЛЬЗЯ НЕНАВИДЕТЬ».**
**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.
**22.45** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.
**23.25** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10** Тайна семи сестёр. **8.25** Охотник за головами. **10.25** Голодные игры. **12.55** Голодные игры: И вспыхнет пламя. **15.25** Голодные игры: Сойка-пересмешница. Часть I. **17.30** Ешь, молись, люби. **20.00** Авиатор. **23.00** Очень плохие мамочки 2. **0.50** Другие. **2.45** Руки-ноги за любовь. **4.20** Миллион для чайников.

### TV1000 ACTION

**7.35** Вавилон Н.Э. **9.45** Французский транзит. **12.10** Титан. **13.55** Пипец. **15.55** Коломбиана. **17.45** Агент Джонни Инглиш. **19.20** Агент Джонни Инглиш: Перезагрузка. **21.10** Уцелевший. **23.15** Окулус. **1.10** Рэмбо 4. **3.10** Клин клином. **5.10** Воин.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.15** Царевна-лягушка. **10.05** Серые волки. **12.15** Мама не горюй 2. **14.15** Элефант. **15.50** Семь ужинов. **17.25** Проводник. **19.00, 5.50** Обитаемый остров. **21.05** Обитаемый остров: Схватка. **23.00** Околофутбола. **0.55** Невеста любой ценой. **2.55** Контрибуция.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.00** Х/ф **«СТРЕКОЗА». 12.15** Х/ф **«ОТ КОЛЫБЕЛИ ДО МОГИЛЫ». 14.30** Х/ф **«ОСАДА». 16.45** Х/ф **«ВОЙНА». 19.00** Х/ф **«НАЁМНИК». 21.15** Х/ф **«УБИЙЦА». 23.45** Х/ф **«12 РАУНДОВ». 2.00, 2.30, 3.00, 3.30, 4.00, 4.30, 5.00, 5.30** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 12.00, 13.00** Т/с **«ОДНА ТЕНЬ НА ДВОИХ». 14.00, 15.00** Т/с **«БРАК ПО ЗАВЕЩАНИЮ. ВОЗВРАЩЕНИЕ САНДРЫ». 20.00, 21.00** Т/с **«МЕТОД ФРЕЙДА 2». 22.00, 23.00** Т/с **«ГРОМОВЫ». 4.00, 5.00** Т/с **«ПЛАН «Б». 6.00, 7.00** Т/с **«ВЛЮБЛЕННЫЕ ЖЕНЩИНЫ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.40** Х/ф **«РАЗБОРКИ В СТИЛЕ КУНГ-ФУ». 2.45** Х/ф **«ОЧЕНЬ ОПАСНАЯ ШТУЧКА». 4.25** Х/ф **«НЕРЕАЛЬНАЯ ЛЮБОВЬ». 6.00** Х/ф **«СВАДЕБНЫЙ РАЗГРОМ». 7.50** Х/ф **«ПОСЛЕСВАДЕБНЫЙ РАЗГРОМ». 9.40** Х/ф **«МАМА ДАРАГАЯ!». 11.20** Х/ф **«СНОВА В ШКОЛУ». 13.15** Х/ф **«ФАНАТКИ НА ЗАВТРАК НЕ ОСТАЮТСЯ». 15.15** Х/ф **«ПРАВИЛА СЪЕМА: МЕТОД ХИТЧА». 17.35** Х/ф **«О ЧЕМ ГОВОРЯТ МУЖЧИНЫ». 19.30** Х/ф **«О ЧЁМ ЕЩЁ ГОВОРЯТ МУЖЧИНЫ». 21.25** Х/ф **«О ЧЁМ ГОВОРЯТ МУЖЧИНЫ. ПРОДОЛЖЕНИЕ». 23.15** Х/ф **«ПЯТНИЦА».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.10, 1.05, 2.00, 2.55** Беги! **4.00, 5.00, 6.00, 7.00, 8.00, 9.00, 10.00, 11.00** Чужая дочь. **12.00, 13.00, 14.05, 15.05, 16.05, 17.05, 18.05, 19.05, 20.10, 21.10** Охота на Гауляйтера. **22.10, 23.10** Карточный домик.

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **9.15** Т/с **«ЕРАЛАШ». 9.45** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **10.05** Мультфильмы «УТИНЫЕ ИСТОРИИ». **10.25** Мультфильмы «ТИМОН И ПУМБА». **11.00** Шоу «САРАНХЭ». **12.00** Т/с **«СЧАСТЛИВЫ ВМЕСТЕ». 15.00** Фэнтези «КРОЛИК ПИТЕР». **16.40** Х/ф **«ОБЛАЧНО, ВОЗМОЖНЫ ОСАДКИ В ВИДЕ ФРИКАДЕЛЕК». 18.15** Шоу «ФОРТ БОЯРД». **20.00, 1.25** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **21.20** Х/ф **«КЛИК: С ПУЛЬТОМ ПО ЖИЗНИ». 23.25** «КВН. ПА-НАШАМУ». **0.00** Т/с **«ГАЛЫГИН.RU». 2.40** Скетч-шоу «ДАЕШЬ МОЛОДЕЖЬ». **4.20** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00, 15.00** Азбука спорта. **7.10** Хоккей. Чемпионат Беларуси. Юность-Минск – ХК Гомель. **9.05** Футбол. Чемпионат Англии. Арсенал – Шеффилд Юнайтед. **11.05** Биатлон. Кубок мира. Рупольдинг. Эстафета. Мужчины. **12.30** Гандбол. Чемпионат Европы. Второй групповой раунд. **14.05, 22.05** Биатлон. Кубок мира. Рупольдинг. Гонка преследования. Женщины. **15.10** Легенды мирового спорта. **15.45** Тренировочный день. **16.20, 23.00** Биатлон. Кубок мира. Рупольдинг. Гонка преследования. Мужчины. **17.00** Футбол. Чемпионат Англии. Бернли – Лестер. В перерыве Спорт-центр. **18.50** На пути к Токио-2020. **19.20** Футбол. Чемпионат Англии. Ливерпуль – Манчестер Юнайтед. В перерыве Спорт-центр. **21.20** Итоги недели.

### EUROSPORT

**0.05** Санный спорт. Кубок мира. Лиллехаммер. Женщины. 1-я попытка. **0.30** Санный спорт. Кубок мира. Лиллехаммер. Женщины. 2-я попытка. **1.00** Санный спорт. Кубок мира. Лиллехаммер. Двойки. 2-я попытка. **1.30** Ралли-рейд. Дакар. Обзор. **2.05** Теннис. АТР 250. Аделаида. Финал. **3.30, 8.30** Снукер. «Мастерс». Лондон. 1/2 финала. **5.00** Сноуборд. Кубок мира. Лакс. Хафпайп. **5.30** Горные лыжи. Кубок мира. Сестриере. Женщины. Слалом-гигант. 2-я попытка. **6.00** Горные лыжи. Кубок мира. Венген. Мужчины. Комбинация. Слалом. **6.30, 11.15** Горные лыжи. Кубок мира. Венген. Мужчины. Скоростной спуск. **7.30, 17.10** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Титизее-Нойштадт. Мужчины. HS 142. **10.35** Автогонки. Формула Е. Сантьяго. Гонка. **12.05** Горные лыжи. Кубок мира. Венген. Мужчины. Слалом. 1-я попытка. **13.15** Биатлон. Кубок мира. Рупольдинг. Женщины. Эстафета. **14.05** Биатлон. Кубок мира. Рупольдинг. Женщины. Гонка преследования. **15.00** Горные лыжи. Кубок мира. Венген. Мужчины. Слалом. 2-я попытка. **16.15** Биатлон. Кубок мира. Рупольдинг. Мужчины. Гонка преследования. **19.00** Санный спорт. Кубок мира. Лиллехаммер. Мужчины. 2-я попытка. **19.45** Санный спорт. Кубок мира. Лиллехаммер. Эстафета. Команды. **20.30** Юношеские Зимние Олимпийские игры. Лозанна. Обзор. **21.00, 21.45** Снукер. «Мастерс». Лондон. Финал.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 7.00, 14.00, 14.20, 16.55, 18.55, 2.20** Мир танков. **6.15, 7.20, 8.25, 17.20, 18.05** Трасса А2. **8.05, 10.10, 13.45, 16.40, 19.15, 23.50, 2.05, 4.20** Итоговые новости. **9.10, 10.25, 22.55, 0.10** Тест на «Драйве». **9.40, 11.00, 0.35** Всё включено. **10.00, 11.15, 23.40, 0.55** Куда уходит детство. **11.30, 19.30, 19.55, 3.05, 3.30** Гаражная команда. **12.20, 20.25** Покорители Азии? 2. **12.50, 1.50, 4.35** Легенды автопрома. **13.10** Сити тестер. **14.40** Советы юриста. **15.25, 4.50, 5.35** Резьба по стали. **15.55, 21.50** Вечер с Пикуленко. **21.00** Школа внедорожного вождения. **21.15** Автомобильные музеи мира. **22.35, 5.20** Тайный покупатель. **23.25** Все включено. **1.05** Эконом-тест. Эксклюзив. **1.20, 3.50** Покорители Азии. **2.35** Комплектация.

### EXPLORE

**6.00, 6.45, 7.35, 8.25, 9.10** Большое рыболовное состязание. **10.00** Речные чудовища. **10.55** Строительство гигантов. **11.40, 3.35, 4.30** Короли разрушения. **12.30, 13.20, 14.10** Выживание в лесу. **15.00, 15.25** Охота на оленей. **15.45** Охотники на морских ежей. **16.35, 17.20, 18.10, 18.55, 19.40, 20.30, 21.15, 22.05, 22.50, 23.40, 2.00, 2.45** Австралийские золотоискатели. **0.25, 1.15** Уникальные дома из дерева. **5.20, 5.45** Гараж: Последний приют.

### HISTORY

**6.30, 5.30** Музейные тайны. **8.15** Невероятные изобретения. **8.45, 9.40, 10.35** Запретная история. **11.25, 12.25** Коварная Земля. **13.20, 14.15, 15.05, 16.00, 16.55, 17.45** Тайны британских замков. **18.40** Затерянный город гладиаторов. **19.45** Истории из королевской спальни. **20.50** Истории из королевского гардероба. **21.55** Тридцатилетняя война – Железный век. **23.00** Забытые королевства Южной Америки. **0.15** Титаник: истории из глубины. **1.10** Военные заводы. **2.05, 2.30** Родовые проклятья. **3.00** Мифические существа. **3.55, 4.40** Мифы и чудовища.

### NATURE

**6.00, 6.25, 22.55, 23.25, 23.50, 0.15, 0.40** Природа в кадре. **6.50** Мир природы – Лобо – волк, который изменил Америку. **7.45** Мир природы – черные мамбы. **8.45** Мир природы – радио «Гиббон». **9.40, 10.35, 11.30, 19.25** Тайная жизнь слонов. **12.30** Суперветеринар. **13.20, 13.45** Уличный ветеринар. **14.15** Ветеринар из глубинки. **15.00** Мир природы – крылатые охотники на обезьян. **15.55, 16.45, 17.40** Дикие Филиппины с Найджелом Марвеном. **18.30** Великая рифтовая долина – дикое сердце Африки. **20.20** Огромные звери: последние из великанов. **21.15** Суровая Австралия. **22.05** Земля больших кошек. **1.05, 1.55** Жуткие, настоящие и странные. **2.45, 3.45** Анатомия крупнейших животных. **4.35** Ветеринар из Йоркшира. **5.20** Путешествие по паркам.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Самые удивительные фотографии National Geographic. **6.25, 6.50, 5.10** Зона строительства. **7.15, 8.00** Остров бунтарей. **8.45** Золото в холодной воде. **9.30** Суперкар со свалки. **10.15, 1.10, 1.55** Авто – SOS. **11.00** Внутри невероятной механики. **11.45** Экстремальное путешествие: Вторая мировая война. **12.35, 13.20** Нераскрытые тайны второй мировой войны. **14.05, 14.50, 23.40, 0.25** Седьмой континент: лучшее. **15.35** Враждебная планета. **16.25** Опасные путешествия. **17.15** Море теней. **19.00, 22.05, 2.45** Осушить океан. **19.50, 20.35, 21.20** Египет с величайшим исследователем в мире. **22.55** Осушить океан: Без следа. **3.30, 4.20** Инженерные идеи. **5.35** Игры разума.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 8.50, 11.10, 13.30, 22.35** Охота в Приволжье. **6.30, 9.20, 11.35, 20.10** Люди дикого севера. **7.15, 12.25** Профессиональная рыболовная лига 2019. **7.50** Охота и рыбалка в. **8.20, 10.35, 13.00, 19.40, 5.30** Камский спиннинг. **10.05, 21.35, 5.05** Рыбалка 360. **12.45** Первый лед последний лед. **14.00, 15.00, 23.05, 0.10, 2.10, 3.05** Фишермания. **14.30, 17.05, 23.40, 1.40** Охота по-фински. **15.30, 18.10, 1.10, 4.05** Мир рыболова. **16.00, 18.40, 2.40** Территория льда. **16.30** Рыбалка с Нормундом Грабовскисом. **17.40** Пофестивалим! **19.10** Россия заповедная. **21.00** На рыбалку с охотой. **22.05** Поехали на рыбалку! **0.45, 3.35** Пофестивалим! **4.35** Мой мир – рыбалка.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.55, 14.00, 18.00, 22.00, 2.10** Дома на деревьях. **6.45, 10.40, 14.45, 18.45, 22.45, 2.50** Кухня народов СССР. **7.00, 15.00, 19.00, 3.05** Беспокойное хозяйство. **7.30, 15.35, 19.30, 23.35, 3.35** Профпригодность. **8.00, 12.00, 16.05, 20.05, 0.05, 4.05** Лучки-пучки. **8.20, 12.20, 16.20, 20.20, 0.25, 4.20** Дачные хитрости. **8.35, 12.35, 16.40, 20.35, 0.40, 4.45** Высший сорт. **8.50, 12.55, 16.55, 20.55, 0.55, 5.00** Дачных дел мастер. **9.25, 13.25, 17.25, 21.25, 1.25, 5.30** Альтернативный сад. **11.00** Огород круглый год. **11.15, 23.05** Огород круглый год. **11.30** Праздник в дом. **1.55** С пылу с жару. **4.30** Травовед.

# Адчынялі і зачынялі музеі, вырашылі пабудаваць АЭС

## Што прыносілі гады Пацука ў Смаргонь, Астравец, Ашмяны

АСТРАВЕЦ
СМАРГОНЬ
АШМЯНЫ



У 2008 годзе ўлады вырашаюць будаваць АЭС у Астраўцы.

Фота Настассі УЛІНАЙ.

### 1924

Польскія архітэктары стварылі праект разбудовы касцёла Святога Міхаіла Арханёла, пабудаваны ў 17 стагоддзі ў Міхалішках на Астравеччыне. Ад 1924 да 1939 года касцёл рэстаўраваўся.

Да гэтага года ў Гервятах пад апекай літоўскага культурнага таварыства Rytas («Раніца») працавала літоўская школа.

У Ашмянах працуе дрожджавая фабрыка братоў **Абрама** і **Давіда Стругачаў**. У 1924 годзе на ёй працавала дзевяць чалавек. Але вытворчасць развівалася, і ў 1937 рабочых было ўжо 33.

У Смаргоні пабудавалі дом для судовых служачых. Ён і цяпер ёсць у горадзе па адрасе: вуліца Гастэлы, 42. Пабудаваны ён па праекце **Юльюша Жакоўскага**. Кіраваў будаўніцтвам **Станіслаў Мечнікоўскі**.

Старшынёй Таварыства беларускай школы становіцца ўраджэнец вёскі Арляняты **Адам Станкевіч** – каталіцкі святар, літаратуразнаўца, выдавец, дзеяч беларускага адраджэння ў Заходняй Беларусі . Цяпер Арляняты – у Крэўскім сельсавеце.

У Берліне выходзіць раман «Месія сын Эфроіма» яўрэйскага пісьменніка ўраджэнца Смаргоні **Майсея Кульбака**.

### 1936

У Ашмянах пры гарадской бойні, якая цяпер вядомая як Ашмянскі мясакамбінат, пабудавалі за дзевяць тысяч злотых бактэрыялагічную лабараторыю, вагавую і артэзіянскі калодзеж.

А яшчэ ў Ашмянах вырашаюць пабудаваць чыгунку. Участак ад горада да аднайменнай станцыі стаў бы яе першым фрагментам. Аднак задуму не ўвасобілі. У гэтым жа годзе адкрылі спартыўную школу.

На Астравеччыне кардонная фабрыка «Альхоўка» выпусціла першую прадукцыю. А ў вёсцы Дубок побач з касцёлам пабудавалі капліцу-грот і капліцу-браму.

### 1948

У Смаргонскай бальніцы працуюць 88 чалавек, хворым дапамагаюць дзесяць дактароў-спецыялістаў. На Смаргоншчыне пачынае дзейнічаць падпольная антысавецкая група **Расціслава Лапіцкага**. Музыкант і педагог **Аляксандр Дзяруга** стварыў цымбальны аркестр, якім кіраваў 30 год. У Смаргоні нарадзіўся **Уладзімір Шчасны** – перакладчык, публіцыст, дыпламат.

У Ашмянах зачынілі касцёл Міхаіла Арханёла. У ім размясцілі краму, потым – фабрыку.

У Астраўцы з'явілася першая пажарная машына. А ў раёне дзейнічала пяць калгасаў. У Астравец з Масквы прыязджае **Валер Блахін** – будучы спартсмен, член моладзевай зборнай Маладзечанскай вобласці, прызёр першынства БССР па лёгкай атлетыцы (скачкі з шастом).

### 1960

Смаргонь, Ашмяны і Астравец уваходзяць у склад Гродзенскай вобласці. У Смаргоні пачынаюць будаваць прамысловыя прадпрыемствы і сфарміравалі 28 ракетны полк у складзе 32 ракетнай дывізіі. Пабудавалі школу №2.

У рэспубліканскім друку з'яўляюцца вершы паэта, ураджэнца Мядзельшчыны, а пазней жыхара Смаргоншчыны **Мар'яна Дуксы**. У вёсцы Шутавічы Смаргонскага раёна нарадзіўся **Уладзімір Жабінскі** – будучы навуковец, хімік-арганік, доктар хімічных навук, дацэнт. Кампазітар і педагог Аляксандр Дзяруга атрымаў званне заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

У Ашмянах стварылі аўтатранспартную кантору. А яшчэ ў горадзе прайшло апошняе традыцыйнае яўрэйскае пахаванне.

### 1972

У Смаргоні пачаў працаваць завод аптычнага станкабудаўніцтва. А таксама паставілі помнік Леніну на плошчы. Вясной 2019 помнік забралі на рэстаўрацыю, але на плошчу не вярнулі.

> Ад гэтага года ўраджэнец Смаргоні паэт Уладзімір Някляеў узначальвае літаб'яднанне ў газеце «Знамя юности».

У Астраўцы перастаў працаваць цагельны цэх, які адчынілі ў 1940-х на базе мясцовага прамкамбіната.

Пры Ашмянскім раённым Доме культуры стварылі харавы калектыў, а ў мясцовым касцёле адчынілі фабрыку.

### 1984

Беларускі навукоўца, археолаг, гісторык **Алесь Краўцэвіч** вывучае археалагічныя помнікі Ашмянаў.

У чэрвені ў Смаргоні адчынілі музей. Першапачаткова ён быў у помніку архітэктуры 16 стагоддзя – былым кальвіністкім зборы. Будучы мастак ураджэнец Смаргоншчыны **Анатоль Бяляўскі** закончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Першых пацыентаў прыняў новы корпус Смаргонскай бальніцы. На Астравеччыне заснавалі Варнянскае лясніцтва.

### 1996

У Ашмянах стварылі спартыўна-атлетычны клуб «Аякс».

Смаргонскі раён і горад Смаргонь аб'ядналі ў адну адміністрацыйную адзінку. Гэта было ўпершыню ў Беларусі. У Смаргоні адкрылі першы дыягностычна-рэабілітацыйны цэнтр і пачынае выходзіць недзяржаўнае выданне «Новая газета». Выходзіць зборнік паэзіі Уладзіміра Някляева «Прошча» .

### 2008

Астравец адзначае 540-годдзе, а Смаргонь – 505-годдзе.

У Смаргоні пачалі будаваць летні амфітэатр. У горадзе ладзяць першы міжраённы мотафестываль. На Смаргоншчыне, у Міхневічах, устанавілі помнік герою Першай сусветнай вайны, палкоўніку грэнадзёрскага грузінскага палка **Акакію Атхезуры**. У Смаргоні абвалілася прыбудова да школы №2. Людзі не пацярпелі.

> Разглядаюць тры пляцоўкі для будаўніцтва Беларускай АЭС, у іх ліку – астравецкая. У выніку яна выходзіць на першае месца па верагоднасці будаўніцтва. Дзве астатнія, у Магілёўскай вобласці, вызначаны як рэзервовыя.

У Астраўцы ладзяць пленэр скульптараў. У ліпені пяць скульптур, зробленых у рамках пленэра, упрыгожылі Цэнтральны сквер. У мясцовы лясгас завезлі 60 ланяў з Літвы.

У Гальшанах зачынілі філіял Нацыянальнага мастацкага музея «Архітэктурны комплекс 16-18 стагоддзяў», які размяшчаўся ў памяшканні манастыра францысканцаў. У Ашмянах і Гальшанах ладзяць трэція Гальшанскія чытанні на тэму «Старажытныя сядзібы Ашмяншчыны».

Падрыхтавала
**Аксана ЯРАШОНАК.**

---

## ● КАЛЯНДАР

**10 СТУДЗЕНЯ**
**1972.** У вёсцы Вязынка Маладзечанскага раёна адчынілі Купалаўскі мемарыяльны запаведнік.

**11 СТУДЗЕНЯ**
**1862.** Выйшла першая нелегальная беларуская газета «Мужыцкая праўда», якую выпускаў Кастусь Каліноўскі.

**12 СТУДЗЕНЯ**
**1906.** Нарадзіўся **Язэп Малецкі**, беларускі грамадскі дзеяч, рэдактар і выдавец, доктар. У гады Другой сусветнай вайны быў намеснікам БЦР па Вілейскай акрузе. Аўтар мемуараў «Пад знакам Пагоні».



**13 СТУДЗЕНЯ**
**1991.** У выніку штурму савецкімі войскамі тэлецэнтра ў Вільні загінула 14 чалавек. Адзначаецца ў Літве як Дзень абаронцаў свабоды.

**14 СТУДЗЕНЯ**
**1873.** Паміж Мінскам і Новай Вілейкай (Нававілейск, прыгарад Вільні) пачаўся рух цягнікоў праз Маладзечна, Смаргонь, Солы. З адкрыццём гэтага ўчастка на тэрыторыі сённяшняй Беларусі з'явіўся першы чыгуначны вузел Мінск.

**1893.** У Вільні нарадзілася **Канстанцыя Буйло**, беларуская паэтка. Памерла ў Маскве ў 1986. У 1989 урну з яе прахам перапахавалі ў Вішневе ля Валожына. У яе гонар названы вуліцы ў Валожыне, Маладзечне, Мінску. Вішнеўскай сярэдняй школе прысвоенае імя паэткі.

**15 СТУДЗЕНЯ**
**1940.** У ліку іншых утвораныя Астравецкі, Ашмянскі, Ільянскі, Крывіцкі, Куранецкі, Маладзечанскі, Мядзельскі, Радашкавіцкі, Смаргонскі і Свірскі раёны Вілейскай вобласці і Валожынскі, Івянецкі Баранавіцкай вобласці.

**16 СТУДЗЕНЯ**
**1976.** Уведзеная ў эксплуатацыю Вілейска-Мінская водная сістэма – сістэма каналаў і вадасховішчаў, прызначаная для водазабеспячэння прамысловасці і камунальнай гаспадаркі Мінска, добраўпарадкавання прыгараднай зоны сталіцы. Пачатак будаўніцтва – 1968 год.

Падрыхтаваў **Мікола ГАЙДУК.**




Фота Ігара ПАЛЬНСКАГА.

**Практыкі бюджэту грамадскага ўдзелу ў Беларусі пакуль няма. Аднак мясцовыя актывісты знаходзяць магчымасць зрабіць свой горад лепшым. На фота – вуліца стрыт-фуда ў Маладзечне.**

# А вы хацелі б ажыццявіць свае ідэі за грошы з гарадскога бюджэту?

**Беларусы практычна не маюць магчымасці неяк паўплываць на размеркаванне бюджэтных сродкаў. І гэта няправільна, лічыць аналітык праекта «Кошт урада» Жанна Кулакова.**

За кошт падаткаў грамадзян фарміруецца значная частка бюджэту. Таму людзі маюць права вырашаць, як траціць гэтыя грошы. У суседніх краінах, у Польшчы, ва Украіне, праблему вырашае бюджэт грамадскага ўдзелу.

### Як ва Украіне кожны можа ўвасобіць сваю задуму за грошы горада

Паколькі ў Беларусі такой практыкі пакуль няма, мы звярнуліся да прыкладу Украіны. Пра бюджэт грамадскага ўдзелу ў Чарнігаве нам расказала прадстаўнік працоўнай групы ў Чарнігаўскай радзе **Таццяна Раманава**.

– Практыка бюджэту грамадскага ўдзелу прыйшла да нас з Польшчы, – кажа Таццяна. – У Чарнігаве мы рэалізавалі практыку бюджэту грамадскага ўдзелу па прыкладзе Польшчы ў 2015 годзе.

Бюджэт грамадскага ўдзелу – гэта магчымасць кожнага жыхара горада ўвасобіць сваю задуму за бюджэтныя грошы, тлумачыць суразмоўца.

У Чарнігаве ад 2015 года адзін працэнт з гарадскога бюджэту выдаткоўваюць на рэалізацыю праектаў, ідэй ад гараджан. Вясной жыхары Чарнігава, якія прапісаныя ў горадзе і ва ўзросце, старэйшым за 16 год, падаюць свае ідэі ў працоўны орган гарадской рады. Пасля гэтага профільныя ўпраўленні разглядаюць усе праекты і даюць рэцэнзію кожнаму. Вызначаюць, якія праекты дапусціць да галасавання, а якія – не.

– Пасля мы ладзім адкрытае публічнае пасяджэнне працоўнай групы. Запрашаем туды аўтараў, выслухоўваем кожнага. Вырашаем, якія праекты пераходзяць у наступны этап, – тлумачыць Таццяна.

### Праект павінны быць для ўсіх

А наступны этап – гэта галасаванне за праекты. Галасуюць усе жыхары горада, якія маюць гарадскую прапіску і ўзрост ад 16 гадоў. Галасаванне звычайна ладзяць увосень, каб паспець закласці рэалізацыю праектаў-пераможцаў у бюджэт на наступны год. Праекты, якія набралі найбольш галасоў, рэалізуюць у наступным годзе.

На якія ж праекты мясцовая рада гатовая выдаткаваць грошы? Асноўны крытэрый – агульнадаступнасць. Гэта значыць, вынікамі праекта могуць карыстацца ўсе.

– Менавіта таму лакальныя праекты тыпу рамонту спартыўнай залы ці прыбіральні ў школе працоўная група не прапускае. Бо тут доступ да выніку праекта будуць мець толькі тыя, хто вучыцца і працуе ў гэтай школе. Астатнія – не, – кажа суразмоўца.

Яшчэ адзін важны крытэрый – тэрыторыя, дзе рэалізуецца праект, павінна быць дзяржаўнай, а не прыватнай.

### Колькі гарадскія ўлады гатовыя даць актывістам

Праекты, якія даходзяць да галасавання, дзеляцца на дзве групы – малыя і вялікія. Сума малых – да трохсот тысяч грыўняў. На нашы грошы – каля 27 тысяч рублёў. Бюджэт вялікіх праектаў – паўтара мільёна грыўняў. Гэта трохі больш, чым 133 тысячы беларускіх рублёў.

Ужо два гады галасаванне за праекты электроннае. Аднак для тых, хто не можа прагаласаваць, ёсць каля дзесяці пунктаў падтрымкі ў горадзе, куды можна прыйсці, каб дапамаглі гэта зрабіць. Раней было папяровае галасаванне ў некалькіх пунктах падтрымкі. Аднак ад гэтага адмовіліся, бо было вельмі шмат маніпуляцый, дзеліцца Таццяна.

Адзін чалавек можа прагаласаваць за тры вялікія і тры малыя праекты. Па словах Таццяны, вялікія праекты – гэта, у асноўным, капітальныя рэканструкцыі чаго-небудзь, дзіцячая або спартыўная пляцоўкі, маштабны фестываль. Малыя праекты – гэта часцей трэнінгі, семінары, гурткі для дзяцей.

Сёння сярод праектаў на сайце для галасавання – псіхалагічныя трэнінгі для моладзі, абнаўленне парку, устаноўка ў горадзе скрынь, куды можна складаць непатрэбныя цацкі, адзенне і абутак.

### А што з бюджэтам грамадскага ўдзелу ў Беларусі?

– Беларусі ў практыцы бюджэту грамадскага ўдзелу лепш арыентавацца на Польшчу, а не на Украіну, – лічыць аналітык праекта «Кошт урада» Жанна Кулакова. – У Беларусі цэнтралізаваная сістэма дзяржаўных фінансаў. Ва Украіне рашэнні пра бюджэт грамадскага ўдзелу могуць прымаць гарадскія ўлады. У нас гэта немагчыма. Мы з калегамі з фонду імя Льва Сапегі праводзілі даследаванне, каб высветліць, наколькі магчымая гэта практыка ў Беларусі. Гутарылі з дэпутатамі мясцовых Саветаў. Усе кажуць, што ў нашым выпадку патрэбная ініцыятыва зверху. Нейкае агульнае заканадаўства, якім будуць карыстацца на месцах. Падобны прыклад у Польшчы, – тлумачыць Жанна.

На думку эксперта, вельмі добра, што тэма бюджэту грамадскага ўдзелу пачала гучаць у СМІ.

– Спадзяюся, што з часам гэту практыку ў нас можна будзе рэалізаваць. З аднаго боку – гэта невялікія грошы, не палова гарадскога бюджэту. Звычайна, у межах аднаго працэнта. А з іншага – гэта дазволіць уцягнуць грамадства ў размеркаванне бюджэту. Бо пакуль у нас з гэтым усё дрэнна, – падсумавала Жанна.

### Маладзечанскія актывісты: мы марым пра падтрымку мясцовых уладаў

Пакуль бюджэту грамадскага ўдзелу ў Беларусі няма, маладзечанскія актывісты шукаюць іншыя магчымасці зрабіць нешта добрае для свайго горада: ладзяць святы ва ўласным двары, збіраюць рэчы для тых, хто мае патрэбу. Дзякуючы таму, што актывістаў падтрымаў буйны мабільны аператар, у горадзе з'явілася вуліца стрыт-фуда.

– Пакуль мы толькі можам марыць пра такую падтрымку, – кажа маладзечанская актывістка **Ірына Тархан**. – Але ўжо ведаем, што маглі б папрасіць у мясцовых уладаў – пасадзейнічаць у стварэнні гарадскога агарода.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# «У Швецыі мне не хапае снежных вілейскіх зімаў»

## Віляйчанка Вікторыя Супрановіч аб тым, як змяніліся яе зімовыя святы пасля пераезду ў Скандынавію

**Вікторыя жыве на поўдні Швецыі, у невялікім горадзе Сведала. Працуе ў канцылярыі ўніверсітэта ў Мальмё, што за 20 кіламетраў ад яе горада.**

7 студзеня ў жанчыны была адметная дата – роўна 15 год таму яе нага ўпершыню ступіла на шведскую зямлю.

– Тады я прыехала на адзін семестр па праграме студэнцкага абмену, каб купацца ў шведскай мове, якую вывучала ў лінгвістычным універсітэце, – прыгадвае Вікторыя. – Накупаўшыся, я так палюбіла мову і краіну, што аднаго семестра аказалася мала, я захацела прыехаць яшчэ.

Пасля некалькіх прыездаў Швецыя канчаткова зацягнула віляйчанку. Новы год і Каляды сталі добрай нагодай, каб жанчына распавяла «Рэгіянальнай газеце» аб тым, чым яе шведскія святы адрозніваюцца ад колішніх беларускіх.

### Вілейка: аліўе, Дзед Мароз, снег і верашчака на Раство

– У дзяцінстве ў Вілейцы Новы год быў сямейным святам, мы адзначалі яго заўсёды дома з сям'ёй, сваякамі, а бывала, што і з суседзямі, – прыгадвае Вікторыя. – Былі і ўсе традыцыйныя атрыбуты постсавецкай прасторы: аліўе, «Іронія лёсу», пах ялінкі і мандарынаў, шампанскае пад бой курантаў у тэлевізары.

Каляды сям'я Вікторыі адзначала 7 студзеня ў вёсцы Рабунь, што ў Вілейскім раёне, у бабы з дзедам, дзе ўсе елі бліны з верашчакай.

– Магчыма, што верашчаку я і не ела, бо была вельмі пераборлівая ў дзяцінстве. А вось цяпер з задавальненнем з'ела б – так гэта настальгічна, пах свойскіх кілбас, стос бліноў на стале...

Жанчына прызнаецца, што дагэтуль любіць Новы год. Аднак, пераехаўшы ў іншую краіну, давялося звыкнуцца з тым, што ялінка, падарункі і Дзед Мароз тут з'яўляюцца атрыбутамі зусім не Новага года, а Калядаў, якія адзначаюцца 25 снежня. Некаторыя сем'і нават выкідваюць ёлку адразу пасля Калядаў і не пакідаюць яе да 31 снежня.

– Чаго мне не хапае для шчасця на зімовыя святы, дык гэта снегу! – кажа жанчына. – У дзяцінстве зімы былі снежныя і прыгожыя, а за ўвесь мой час тут, на поўдні Швецыі, толькі два ці тры разы ляжаў снег у калядны вечар. Сёлета з гэтым зноў не пашанцавала.

### Швецыя: Калядавік, адвентавыя календары і тэленавелы

Першае, да чаго Вікторыя павінна была прывыкнуць у святкаваннях, – тое, што Дзед Мароз прыносіць падарункі не на Новы год, а на Каляды. А калі быць зусім дакладным, то прыносіць іх не Дзед Мароз, а Jultomte.

– Jultomte – гэта нехта накшталт калядпага гнома, – тлумачыць жанчына. – Jul – Каляды, а tomte – казачная істота. Ёсць hustomte – дамавік, skogstomte – лесавік, ну а jultomte – хіба калядавік тады?

Калядавік прыходзіць ужо ўвечары 24-га, бо ў Швецыі ўсе святы пачынаюць святкаваць напярэдадні. Ролю Дзеда Мароза звычайна іграе нехта з сям'і.

Каляды – шмат у чым дзіцячае свята, і дзеці больш за ўсіх яго чакаюць: пішуць лісты Дзеду Марозу, цэлы снежань адкрываюць па адным акенцы адвентавых календароў, за якімі хаваюцца цукеркі, спяваюць калядныя песні ў садочках і школах.

Шведскае тэлебачанне да кожнага адвента здымае новую дзіцячую тэленавелу з 24-х серый па 15 хвілін – па серыі на кожны дзень ад 1 снежня да Калядаў.

– Гэта захапляльныя прыгоды са шчаслівым фіналам, якія я і сама вельмі люблю, хаця яны і для дзяцей – прызнаецца Вікторыя. – А для дарослых у продажы з'яўляюцца адвентавыя календары – з кавалачкам сыру, пакецікамі гарбаты, прыправай замест традыцыйных шакаладак.

### Шведскі каляндар дабрыні: па добрай справе кожны дзень

Шведы пачынаюць рыхтавацца да Калядаў першага снежня, у першы адвент.

– Што мне адразу спадабалася ў шведскай падрыхтоўцы да Калядаў, дык гэта звычай запальваць ва ўсіх вокнах зоркі і адвентавыя падсвечнікі, – дзеліцца Вікторыя. – У гэты цёмны час года, ды калі яшчэ снегу няма, гэтыя агеньчыкі сапраўды змяняюць успрыманне рэчаіснасці і істотна паляпшаюць настрой.




Вікторыя разам з сынам Юліусам і каханым Андэрсам, апранутыя ў касцюмы Імбірнай пячэнькі, Калядавічка і Зорнага хлопчыка. Сям'я фатаграфуецца на традыцыйную калядную паштоўку, якую пасля рассылае сябрам і сваякам.



Калядная ялінка ў доме Вікторыі Супрановіч.



Шведскія калядныя цукеркі з арэхамі і шакаладам.

Віляйчанка спявае ў мясцовым хоры, таму разам з ім удзельнічае ва ўрачыстым богаслужэнні ў мясцовай царкве ў першую нядзелю адвента. Увогуле шведы не вельмі рэлігійныя, але на гэту службу прыходзяць больш масава.

Пасля надыходзіць час чакання – можна наведваць калядныя кірмашы, піць глёг (цёплае віно з каляднымі прыправамі), выпякаць імбірнае печыва, упрыгожваць ялінку, рыхтаваць падарункі.

Апошнія гады ў шведскіх медыя пачалі з'яўляцца адвентавыя календары дабрыні – гэта значыць, што замест цукеркі ў акенцы календара ты штодзень атрымліваеш заданне. Напрыклад, падзякаваць касірцы ў краме, сказаць камплімент камусьці на працы, адправіць адзінокаму чалавеку ананімны падарунак, патэлефанаваць сябру дзяцінства, запісацца донарам крыві.

– Нядаўна да мяне на працы зайшлі дзве калегі і спыталіся па-беларуску: як справы? – расказвае Вікторыя. – Аказваецца, у іх календары ў гэта дзень было заданне – навучыцца казаць гэту фразу на новай мове, дык яны навучыліся па-беларуску і па-партугальску – для калегі з Бразіліі. Было вельмі прыемна!

### Замест тэлевізара – абдымкі суседзяў

Новы год у Швецыі адрозніваецца тым, што апоўначы ніхто не сядзіць ля тэлевізара, а ўсе выходзяць з шампанскім на двор – віншуюць адзін аднаго, абдымаюцца.

– Мне гэта вельмі падабаецца, – кажа Вікторыя. – Гэта збліжае з іншымі, дазваляе павіншаваць суседзяў і часам зусім незнаёмых людзей. Адзіны мінус – без бою гадзінніка цяжка вызначыць той самы момант, калі нумар года змяняецца.

У далёкай Скандынавіі жанчына заўсёды памятае пра сваіх вілейскіх родных і сяброў.

– Хачу скарыстацца выпадкам і перадаць святочныя прывітанні маім любімым бацькам, сястры і пляменніцам, а таксама сябрам-вілейчукам, якія ўпрыгожылі шмат зімовых дзён майго юнацтва. Зычу ўсім спаўнення мараў у Новым 2020-м годзе!

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

## Першы намеснік начальніка Мядзельскага РАУС пайшоў на пенсію

МЯДЗЕЛ

**Уладзіміра Ермаловіча**, першага намесніка Мядзельскага РАУС, начальніка крымінальнай міліцыі, маёра ўрачыста праводзілі на пенсію.

Службу ён пачаў у 1998 годзе ў Мінску міліцыянерам ППС. На пасадзе начальніка крымінальнай міліцыі ў Мядзеле – ад 2016 года.

Паводле УУС Мінаблвыканкама.

## Вілейскі РАУС пакуль без начальніка

ВІЛЕЙКА

30 снежня начальніка Вілейскага РАУС **Аляксандра Каратыша** перавялі для далейшай службы ў РАУС у Стоўбцы.

Пра гэта нам расказаў намеснік начальніка Вілейскага РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадрах **Мікалай Мягкоў**.

Па яго словах, абавязкі начальніка РАУС пакуль выконвае першы намеснік **Дзмітры Сухоцкі**. Пытанне пра новага начальніка вырашаць ва Упраўленні ўнутраных спраў Мінаблвыканкама.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Штрафы будуць спісваць з вашых карт-рахункаў

Штрафы і даўгі перад дзяржавай будуць спісваць з вашага банкаўскага рахунку, калі вы не зможаце ці не захочаце аплаціць іх самі. Асобныя пункты ўказа №414 «Аб удасканаленні безнаяўных разлікаў», які Аляксандр Лукашэнка зацвердзіў яшчэ ў кастрычніку 2018-га, уступілі ў сілу ад 1 студзеня. У Беларусі стварылі аўтаматызаваную інфармацыйную сістэму выканання грашовых абавязацельстваў (АІС IDO). Яна прызначаная для таго, каб спаганяць з плацельшчыкаў-даўжнікоў (да іх адносяцца юрыдычныя асобы, арганізацыі, фізічныя асобы і ІП) грошы ў дзяржаўны бюджэт, прычым у бяспрэчным парадку.

Грошы будуць браць з рахункаў банкаў (бягучых валютных дэпазітаў і ўкладаў), а таксама з электронных кашалькоў.

### Хто мае права спаганяць грошы

- Камітэт дзяржкантролю і яго органы
- падатковыя, мытныя органы
- Міністэрства фінансаў
- Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва
- органы, якія вядуць крымінальны працэс
- упаўнаважаныя дзяржорганы
- банкі і іншыя юрыдычныя асобы

Орган, які спаганяе грошы, накіруе аплатнае патрабаванне ў АІС IDO. Тая разашле электронныя лісты з агульнай сумай доўгу ў кожны банк плацельшчыка. А банкі ўжо праверацць, колькі грошай той ці іншы беларус захоўвае на сваіх рахунках і ў электронных кашальках. Альбо паведамяць, што грошай няма.

Затым АІС IDO дасць банку ўказанне спісаць патрэбную суму грошай, а банк павінны будзе выканаць аперацыю і даць справаздачу аб тым, што яна завяршылася паспяхова. Або растлумачыць, чаму не.

Паводле tut.by.

## СТА, гасцініцу і спартыўную залу пабудуюць каля пагранпераходу «Каменны Лог»

АШМЯНЫ

Буйны інвестпраект рэалізуецца ў рамках мадэрнізацыі інфраструктуры на аўтамагістралі М-7 Мінск-Ашмяны – мяжа Літоўскай Рэспублікі ў аўтадарожным пункце пропуску «Каменны Лог». Ужо адноўленыя працы па падрыхтоўцы пляцоўкі для ўзвядзення аб'ектаў.

Інвестар укладвае ў паэтапную рэалізацыю праекта 5,5 мільёна долараў.

Яна разбіта на некалькі чэргаў: спачатку будзе пабудаваная зона чакання са стаянкай на 150 месцаў для вялікагрузных аўтамабіляў. Тут прадугледжанае ўкараненне сістэмы электроннай чаргі для ўезду транспартных сродкаў. У рамках праекта пабудуюць кафэ на 30 месцаў.

Больш перспектыўнай для інвестара СТАА «Эстэйт Ойл» стане другая чарга ўзвядзення аб'ектаў прыдарожнага сэрвісу на М-7 у раёне пагранпераходу «Каменны Лог».

Яны маюць намер пабудаваць станцыю тэхнічнага абслугоўвання, мыйку аўтамабіляў, гасцініцу і спартыўна-аздараўленчы комплекс.

Апошні аб'ект, па запэўненнях інвестара, будзе запатрабаваны дальнабойнікамі пааднаўленні сіл пасля працяглых паездак і стаянак.

Інвестар разлічвае завяршыць работы да красавіка 2021 года.

Паводле osh.by.

● НАМ ПІШУЦЬ



Фота Ігара ПАЛЬНІСКАГА.

Запраўка ў Ілы пакуль яшчэ працуе. Але новую, у Сосенцы, вось-вось пабудуюць.

# Чытач з Чысці: «Закрыццё запраўкі – катастрофа не толькі для ільянцаў»

ВІЛЕЙКА

**Днямі ў Ілы зачыняюць АЗС. Такую сумную навіну нядаўна апублікавала «Рэгіянальная газета».**

На зварот жыхароў Ілы пакінуць запраўку дырэктар РУП «Беларуснафта-Мінскаблнафтапрадукт» **Анатоль Кароткі** адказаў, што «новы аб'ект у Сосенцы знаходзіцца недалёка ад Ілы, на адлегласці 14 кіламетраў. Гэта дазволіць стварыць максімальна зручныя ўмовы для жыхароў Ілы».

Хачу выказаць сваю думку наконт гэтага. Мне незразумела, пра якую зручнасць можа ісці гаворка, калі жыхарам Ілы трэба будзе на мотаблоку замест 500 метраў, «пііліць» на запраўку 15 кіламетраў?

А што казаць жыхарам іншых паселішчаў, такіх, напрыклад, як пасёлак Партызанскі? Яны ўжо 25 кіламетраў мусяць пераадолець, каб заправіцца. А жыхарам Лукаўца, Хаценчыцаў, Сакалоўкі, Новай Гуты, Батурына, Карпавічаў, Лядзвеняў, Пляшчанаў, Заельнікаў і шматлікім іншым. Тут ёсць пытанне да мясцовых дэпутатаў. Чаму яны ніяк не ўплываюць на сітуацыю?

Наколькі мне вядома, жыхары Ілы і бліжэйшых вёсак сабралі больш за тысячу подпісаў супраць закрыцця запраўкі. Людзі накіроўвалі звароты ва ўсе адпаведныя інстанцыі розных узроўняў, але жаданага выніку гэта не прынесла.

> **У стопрацэнтны знос абсталявання я не веру. Кожны раз на ёй запраўляюся і ніколі не заўважаў, што нешта не так.**

Усё працуе добра і ніколі не было такога, каб пісталеты паліва пралівалі. А такое нярэдка здараецца нават на новых сучасных запраўках. Вельмі хочацца спадзявацца на тое, што мясцовая ўлада і дэпутаты ўсё ж пачуюць голас народа.

Алесь РАТКЕВІЧ, Чысць.

## Ад рэдакцыі

Нагадаем, што пра закрыццё запраўкі ў Ілы мы пісалі ў лістападзе мінулага года. Тады да нас звярнуліся занепакоеныя ільянцы і жыхары навакольных вёсак. «Шмат людзей запраўляюць свае аўтамабілі менавіта на гэтай запраўцы, – пісалі нашы чытачы. – Таксама тут запраўляецца транспарт розных арганізацый. Тут жа мясцовыя жыхары, сярод якіх шмат сталых людзей, запраўляюць свае касілкі і бензапілы, мотаблокі».

Па каментар мы звярнуліся ў РУП «Вытворчае аб'яднанне «Беларуснафта».

> **Нам адказалі, што АЗС у Ілы пабудавалі ў 1987 годзе. Таму цяпер яна не адпавядае тэхнічным патрабаванням і правілам эксплуатацыі АЗС і нормам у галіне аховы навакольнага асяроддзя і рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў.**

Тэхналагічнае абсталяванне маральна састарэла і мае стопрацэнтны фізічны знос.

Разглядалі пытанні рэканструкцыі або мадэрнізацыі.

Але гэта не дазволіла б выканаць супрацьпажарныя і экалагічныя нормы і правілы, санітарныя патрабаванні.

Таму вырашылі зачыніць запраўку ў Ілы пасля адкрыцця АЗС у вёсцы Сосенка.

Па словах мясцовых, запраўка ў Ілы працуе апошнія дні.

# Для чаго Каза валіцца долу на Каляды

## Раскрываем сімвалы абраду калядавання

МАЛАДЗЕЧНА

**Удзельнікі этнаграфічнага клуба «Кола» прайшлі з абрадам калядавання па дамах Маладзечанскага раёна 7 студзеня.**

Абышлі з сем хат у Маркаве. А ў вёсцы Кучкі ў доме **Арсеня Асіповіча** паказалі батлейку.

Пра тое, як прайшло свята і ў чым сімвалізм калядавання, распавяла выкладчык музкаледжа і ўдзельнік абрада **Наталля Чырвонцава**.

### Як калядуюць

**Здаецца, калядаваць не так і складана – хадзі па дамах, віншуй, збірай прысмакі. Але гэта даволі хутка вымотвае, ні ў кога не бывае бясконцага імпэту. А для кожнага дома трэба захаваць узнёслы настрой.**



Фота Волі ТРУБАЧ.

Наталля традыцыйна ўдзельнічае ў калядаванні, прыгаворвае: як не пакалядуеш, то год змарнуеш. У абрадзе калядавання самае важнае – жадаць дабра гаспадарам, і тады гэтае дабро вернецца да калядоўшчыкаў.

Не ўсе гаспадары хацелі б запрашаць калядоўшчыкаў – у некаторых не гарыць святло або яны проста не адмыкаюць дзверы.

**Абрадная група ўвасабляе сабой гасцей з таго свету, таму і паводзяць сябе крыху нахабна. Напрыклад, Чорт можа пераставіць абутак або яшчэ што-небудзь утварыць.**

Разам з тым яны пытаюцца дазволу ў гаспадара – ці не супраць калядоўшчыкаў, ці можна ўвайсці ў дом. Адмаўляюць калядоўшчыкам не часта. У старажытнасці ж гаспадары самі выходзілі і запрашалі, каб жа толькі не мінулі іх хату з абрадам, бо лічылі, што калядоўшчыкі прынясуць у дом дабрабыт і здароўе.

Сучасныя гаспадары часцей не ведаюць, як сябе паводзіць і што рабіць – ім усё акуратна падказваюць, каб тэатралізаванае дзейства выглядала гладка.

**Асабліва цікава прымаць калядоўшчыкаў сем'ям, дзе ёсць дзеткі. Яны разглядаюць персанажаў і самі далучаюцца да гульні.**

Хіба што зусім маленькія могуць спужацца незразумелай Казы.

Пасля абрадавай часткі калядоўшчыкаў запрашаюць за стол, а часам проста даюць нешта з сабой – кожная сям'я выбірае, як зручней ім.

### Што значаць персанажы

Галоўны персанаж для кампаніі калядоўшчыкаў – Каза. Яна сімвалізуе стары год, таму персанаж скача і кідаецца, а пасля валіцца на падлогу. Гэта нібы стары год памірае і сыходзіць.

**Тут калядоўшчыкі кажуць гаспадарам, што трэба нешта Казе паднесці, каб ажывіць: «пакласці на ражок піражок».**

Каза ўстае і гэтым сімвалізуе нараджэнне новага года. Год сконччыўся, як зарад гадзінніка, і яго трэба падзарадзіць, каб запусціць на новы год. А гэта новы прыбытак і новыя справы.

Казу водзіць Павадыр, або Дзед. Персанаж нясе парады, раіць, як папраравіць здароўе.

Мядзведзь – гэта персанаж, які звязаны са смаргонскай мядзведжай акадэміяй. Унікальная з'ява навучаных танцаваць звяроў увайшла і ў абрад калядавання. Мядзведзь – персанаж, які выйшаў з-пад зямлі і ведаў яе таямніцы, загадваў раслінным светам, таму нёс сям'і ўраджай, здароўе і дабрабыт.

Калі Каза і Мядзведзь адлюстроўваюць сілу зямлі, то Бусел як нябесная птушка ўвасабляе вышэйшыя сілы. Ён жа адказны і за тое, каб у сем'ях з'яўлялася папаўненне.

У групе калядоўшчыкаў могуць быць ролі, якія прыйшлі пазней. Доктар лечыць Казу, часам ходзіць з клізмай. Можа далучыцца Поп. У кампаніі можа быць Жыд або Цыган, што адлюстроўвае чужынца.

**Такім чынам, калядоўшчыкі неслі з сабой усё важнае, што акружала чалавека: неба, зямлю, сацыяльнае жыццё і чужынцаў.**



Фота Віталя НАЗАРЭВІЧА.

Абавязковы элемент гурта калядоўшчыкаў – Віфлеемская зорка. Яна звязвае абрад з хрысціянствам. Калядоўшчыкі спяваюць не толькі архаічныя песні, але і хрысціянскія.

Абрад сімвалізуе не толькі абнаўленне сонца, з якім прыйдзе новы ўраджай, але і абнаўленне душы чалавека.

– Калядуюць не дзеля ежы, а каб пажадаць дабра. Гэта сур'ёзная праца, якая вымагае сіл. Мы таксама выконваем місію – захоўваем наш старажытны абрад. У якім яшчэ рытуале праз тэатралізаванае прадстаўленне можна так прыгожа выказаць найлепшыя пажаданні? – разважае Чырвонцава.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**




Фота vk.com/hcdinamomolodechno.

# Маладзечанскія хакеісты вяртаюцца з навагодніх канікулаў: каляндар матчаў у 2020 годзе

**«Дынама-Маладзечна» займае чацверты радок у турнірнай табліцы Экстралігі А. У падапечных Дзмітрыя Краўчанкі на рахунку 62 ачкі. Усяго за чатыры месяцы маладзечанскія хакеісты згулялі 39 матчаў – перамаглі ў 20 гульнях, прайгралі ў 19 сустрэчах.**

**Дамашнія гульні**

11 студзеня, 16:30 – «Металург-Жлобін»

20 студзеня, 19:00 – «Нёман»

23 студзеня, 19:00 – «Шахцёр-Салігорск»

25 студзеня, 16:30 – «Гомель»

1 лютага, 16:30 – «Нёман»

11 лютага, 19:00 – «Металург-Жлобін»

13 лютага – «Шахцёр-Салігорск»

15 лютага – «Юнацтва»

**Выязныя гульні**

14 студзеня, 19:00 – «Шахцёр-Салігорск»

16 студзеня, 19:00 – «Юнацтва»

18 студзеня, 16:30 – «Металург-Жлобін»

28 студзеня, 19:00 – «Шахцёр-Салігорск»

30 студзеня, 19:00 – «Гомель»

9 лютага, 17:00 – «Нёман»

18 лютага, 19:00 – «Юнацтва»

20 лютага, 19:00 – «Металург-Жлобін»

22 лютага, 17:00 – «Гомель»

24 лютага, 19:00 – «Нёман»

**Аддзел інфармацыі.**

## У Смаргоні 1 студзеня прайшоў забег

Каля трох дзясяткаў прыхільнікаў здаровага ладу жыцця сабраліся 1 студзеня каля галоўнай ёлкі Смаргоні, каб пачаць новы год з карыснага забегу.

Навагодняя прабежка па горадзе праводзіцца трэці год. У першы раз удзельнікаў было трое, у гэтым жа годзе іх колькасць дзякуючы спартыўнаму энтузіясту **Дзмітрыю Федарынчыку** павялічылася амаль у дзесяць разоў.

Падтрымаць смаргонцаў прыехала і пяцёра астраўчан. Найбольш яркія ўражанні засталіся ў 15-гадовай **Ганны Тумашчык**, для якой фінішная медаль стаў першай узнагародай.

**Паводле ostrovets.by.**

## Міністр спорту: беларускія батутысты выдатна выканалі задачу на чэмпіянаце свету

Беларускія батутысты выдатна выканалі задачу на ключавых стартах сезона, у тым ліку чэмпіянаце свету ў Токіа. Пра гэта сказаў міністр спорту і турызму **Сяргей Кавальчук** на ўшаноўванні атлетаў і трэнераў у РЦАП па фрыстайле.

Па словах міністра, у камандзе ёсць канкурэнцыя, якая ідзе на карысць калектыву. Ён адзначыў асаблівую ролю галоўнага трэнера зборнай **Вольгі Уласавай**.

Па выніках чэмпіянату свету па скачках на батуце **Іван Літвіновіч**, **Уладзіслаў Ганчароў** і **Алег Рабцаў** выйгралі золата ў камандных спаборніцтвах. Серабро ў індывідуальных мужчынскіх скачках на рахунку Івана Літвіновіча. Нагадаем, што Літвіновіч родам з Вілейкі.

**Паводле belta.by.**

## Смаргонскія баскетбалісткі выйгралі турнір у Вільні

Напрыканцы 2019 года смаргонскія баскетбалісткі перамаглі на міжнародных спаборніцтвах у Вільні. Ад 27 да 29 снежня сталіца Літвы прымала штогадовы навагодні баскетбольны турнір сярод дзяўчат.

Акрамя італьянскай, латышскай і трох літоўскіх камандаў за ўзнагароды змагаліся таксама беларускі – прадстаўніцы Смаргонскай СДЮШАР пад кіраўніцтвам трэнера **Валерыя Юрчанкі**.

У 2018 годзе смаргонскія спартсменкі занялі другое месца на гэтым турніры. У 2019-м саперніцам не ўдалося абысці падапечных Юрчанкі. Упэўнена абгуляўшы ўсе каманды, баскетбалісткі са Смаргоні сталі першымі. Лепшым гульцом турніру прызналі **Дынару Бажко** – яна прадстаўніца смаргонскага баскетбола. А **Марыя Гуновіч** стала лепшай у складзе смаргонскай каманды.

**Паводле shliah.by.**

## Беларускія гандбалісты адправіліся на чэмпіянат Еўропы

Гандбалісты зборнай Беларусі 7 студзеня адправіліся на чэмпіянат Еўропы. Першынство стартавала 9 студзеня.

Галоўны трэнер беларускай каманды **Юры Шаўцоў** уключыў у заяўку 18 гандбалістаў:

Перад выездам на кантынентальнае першынство беларусы занялі першае месца на міжнародным турніры ў польскім Тарнуве, абыграўшы каманды ААЭ (31:24), Іспаніі (30:26) і Польшчы (25:24).

Матчы фінальнай стадыі 14-га мужчынскага чэмпіянату Еўропы пройдуць ад 9 да 26 студзеня на арэнах Аўстрыі, Нарвегіі і Швецыі. Беларуская зборная на першым этапе згуляе ў групе А ў аўстрыйскім Грацы разам з камандамі Сербіі, Чарнагорыі і Харватыі. У асноўны раўнд выйдуць па дзве лепшыя зборныя з шасці папярэдніх квартэтаў.

**Паводле belta.by.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Не складана.
4. У Манрэалі праводзяць штогадовы міжнародны фестываль гэтага накірунку музыкі. Фестываль трапіў у Кнігу рэкордаў Гінеса як самы буйны ў свеце.
5. Працэс уздзеяння чалавека на прыроду; чалавечая дзейнасць, накіраваная на стварэнне матэрыяльных і культурных каштоўнасцяў.
10. Меншая фігура ў ігральных картах.
11. Кара́лі.
13. Орган з малочнымі залозамі і саскамі ў млекакормячых жывёл, у якім утвараецца малако.
15. Востраў, які з'яўляецца штатам Аўстраліі. Карэннае насельніцтва не захавалася – там жывуць нашчадкі змешаных шлюбаў. Лічыцца, што там растуць найсмачнейшыя яблыкі.
16. Сукупнасць дасягненняў грамадства ў вытворчым, грамадскім і культурным жыцці.
17. Мінеральнае вадкае маслянiстае рэчыва звычайна цёмна-бурага колеру, якое выкарыстоўваецца як паліва, а таксама як сыравіна, з якой атрымліваюць розныя прадукты (бензін, газу, вазелін).
19. У афрыканскіх сланоў яны ёсць у самак і самцоў, у індыйскіх – толькі ў самцоў.
22. Эпоха пазнейшага каменнага веку.
23. Прозвішча беларускага дырыжора, народнага артыста Беларусі, які нарадзіўся ў вёсцы Цынцавічы Вілейскага раёна.
25. Не галосны.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Ні ў які іншы час; ні пры якіх умовах.
2. Вобраз памерлай асобы, які ўяўляецца людзям.
3. Смуглы, цёмны колер, які набывае скура пад уздзеяннем сонечных прамянёў.
6. Аператыўныя дзеянні, звязаныя з выяўленнем і пошукамі злачынцаў.
7. У рэчаіснасці, на самой справе.
8. Локан.
9. Жартоўная п'еса, у якой дыялогі чаргуюцца з песнямі.
12. Прыстасаванне для лоўлі звяроў і птушак.
14. У савецкім фільме «Карнавальная ноч» Сяргей Філіпаў у ролі Некадзілава цікавіўся, ці ёсць там жыццё.
18. Першапачаткова навагоднае дрэва ўпрыгожвалі імі. Менавіта яны сталі правобразам сённяшніх ёлачных шароў.
20. Горад, у які са свайго знакамітага падарожжа вярнуўся Хрыстафор Калумб, каб дакласці каралю Фердынанду і каралеве Ізабэле, што плаванне прайшло паспяхова.
21. Першы мароз, першы снег.
22 Свойская птушка, якая нясе яйкі.
24. Любоў да іх Бродскі падчас Нобелеўскай лекцыі тлумачыў так: «Чорны вертыкальны згустак пасярод белага ліста нагадвае чалавеку аб яго размяшчэнні ў свеце, аб прапорцыі прасторы да яго цела».

## Адказы на крыжаванку з №1

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 2. Нумар. 3. Сена. 6. Рулон. 7. Легенда. 9. Непавага. 10. Ліманад. 15. Рысь. 16. Траўма. 17. Рэцэпт. 18. Жолуд. 21. Лабірынт.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Суфле. 4. Анёл. 5. Валёнкі. 6. Рыба. 8. Нешта. 11. Нырка. 12. Тавар. 13. Лампада. 14. Рэформа. 16. Тушэ. 19. Бангладэш. 20. Апельсін. 22. Індыя. 23. Нітрат.



## ГАРАСКОП НА 10-16 СТУДЗЕНЯ


**АВЕН.** Тыдзень не будзе асабліва плённым на працы. Вы хутчэй будзеце плысці па цячэнні ў справах. Затое падзеі тыдня могуць стаць для вас добрым урокам. У адносінах з блізкімі будуць пацяпленне і перамены да лепшага.


**ЦЯЛЕЦ.** Спрыяльны тыдзень для дасягнення высокіх мэтаў. Важна, каб вы адчувалі, што ўсё робіце правільна. Чакаюць прыемныя сюрпрызы, якія падкажуць, як лепш дзейнічаць. Калі вы доўга шукалі, чым хацелі б заняць сябе, адказ можаце адшукаць якраз у гэты перыяд.


**БЛІЗНЯТЫ.** Пастарайцеся не нагружаць сябе лішняй адказнасцю. Але і ад іншых не чакайце многага. Вы гатовыя займацца нечым новым – дык бярыцеся і не марнуйце час. У адносінах з блізкімі зразумееце, як пазбегнуць спрэчак.


**РАК.** Пастарайцеся не раскрываць ні свае, ні чужыя сакрэты. Асабліва побач з людзьмі, пра якіх ведаеце менш, чым яны пра вас. Блізкія і каханыя будуць раздражняць – ад вас патрабуецца цярпенне, каб канфлікты не пераraслі ў нешта буйное.


**ЛЕЎ.** З'явіцца шмат задач, якія будуць патрабаваць хуткага рэагавання. Таму паклапаціцеся, каб вы добра адпачывалі і былі напагатове. У сярэдзіне тыдня атрымаецца дамовіцца пра тое, што для вас важна.


**ДЗЕВА.** У вас дастаткова ведаў і досведу, каб справіцца з усімі задачамі, якія будуць патрабаваць вашай увагі ў гэты перыяд. Аднак не забудзьце праявіць і настойлівасць. Выхадныя – ідэальны час для рамантычнага спаткання, толькі паклапаціцеся пра ўсе дэталі.


**ШАЛІ.** Тыдзень будзе насычаны, а старанна працаваць вам спатрэбіцца не толькі на працы. Усе справы запатрабуюць вашых намаганняў. Блізкім і каханым будуць патрэбныя вашы клопат і ўвага, пастарайцеся знайсці сілы і для гэтага.


**СКАРПІЁН.** Вас напаткаюць падзеі, якіх вы ніяк не маглі чакаць. Варта праявіць ініцыятыву, каб жыццё заўважна перамянілася да лепшага. Гэта можа быць рамонт або новая праца – вырашайце самі, што для вас па-сапраўднаму важна.


**СТРАЛЕЦ.** Хутка ў вас з'явіцца шанец атрымаць новы праект – пагаджайцеся, гэта перспектыўная перамена. Смела вырашайце фінансавыя пытанні – вы можаце знайсці выгадную прапанову.


**КАЗЯРОГ.** Будзе адбывацца шмат падзей, але памылкова думаць, што вы на іх не ўплываеце. Як толькі вы пачняце браць усё пад свой кантроль, усё пачне наладжвацца. У рамантычных адносінах пастарайцеся быць спакойным.


**ВАДАЛЕЙ.** У вас ёсць рэальны шанец змяніць жыццё да лепшага. Для гэтага спатрэбіцца паказаць свае самыя моцныя бакі. Не саромейцеся і не прыкідвайцеся сціплымі, і тады ў вас будзе шанец атрымаць тое, чаго заслугоўваеце.


**РЫБЫ.** У вашу галаву будуць залятаць выдатныя ідэі. Магчыма, блізкія дапамогуць здзейсніць вашы мары ці зробяць тое, чаго вы даўно хацелі.

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 2 | | 3 | | 9 | 7 | |
| | 7 | | 1 | | | 3 | | |
| 6 | | | | | 4 | | 1 | |
| 3 | | | 4 | | | | | 2 |
| | 8 | 6 | 3 | | | | | 9 |
| | | | 7 | 8 | | | | |
| 9 | | | | | | | 5 | 1 |
| | 1 | | 6 | 5 | | 2 | | |
| | 2 | 5 | 9 | | | | 6 | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY




• ПТУШКА НА ХВАСЦЕ ПРЫНЕСЛА

***

Бізнес па-электрычкаўску.

На Вязыньцы ў вагон заходзіць мужык-прадавец са стандартным наборам.

– Пластыр бактэрыцыдны! Магніцікі з сімвалам новага года – прэкрасны падарак для каждага! Падарачны набор нажэй за пяць рублёў! Навінка – электрашокер-фанарык два ў адном!

Хлопец збоку доўга вывучае электрашокер, тыкае ім у свайго сябра. Іскры ляцяць, сябра дзёргаецца і мацюкаецца, весялуха. У вынiку купляе гэту цацку за 12 рублёў.

Праз пару прыпынкаў у вагон падсаджваецца мужык. Доўга косіцца на хлопцаў, якія то свецяць адно аднаму ліхтарыкам у твар, то б'юцца токам.

Не вытрымлівае:

– Пакажыце, што гэта ў вас. Ооо, якая крутая штука! Прадаш?

Хлопец прадаў. За 15 рублёў. Пасля ўстаў, пайшоў блукаць па электрычцы.

Недзе знайшоў таго самага прадаўца і купіў сабе новы. Ужо за дзесяць рублёў. Збіў, бо ўжо ж другі раз набывае.

Сяджу і думаю: ну, я і доўбень, што кнігі ў электрычцы чытаю. Бізнес сам у рукі просіцца, а мяне хапае толькі на тое, каб посты ў фэйсбук чырыкаць.

***

Банда з 18 чалавек сабралася ў двары. Усе – падлеткі ў чорным. Сталі сценка на сценку і пачалі... дарыць адно аднаму падарункі і абдымацца.

Праз 15 хвілін разбегліся.

Мілата!

• ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Што самае каштоўнае вы набылі ў 2019 годзе?

**Аляксандр Зубрыцкі, прадпрымальнік, Маладзечна:**

– Самае каштоўнае, што набыў, – гэта вернасць сяброў.



**Ягор Раковіч, кіраўнік кампаніі, Маладзечна:**

– Набыў неацэнны досвед кіравання прадпрыемствам у крызісны перыяд.



**Сяргей Ярук, настаўнік, Маладзечна:**

– Новыя музычныя інструменты для ансамбля «Самагуды», на сродкі, якія выдзеліла Маладзечанская ДШМ. А сабе будматэрыялы для рамонту.



**Павел Стральцоў, слесар, Смаргонь:**

– Купіў «Плэй Стэйшн 4».



**Сяргей Зянчонак, аператар на заводзе, Вілейка:**

– Набыў летась пасведчанне на права жыхарства ў Чэхіі.



**Вольга Мацюшонак, візажыст, Маладзечна:**

– Калі падумаць, то самае каштоўнае ў мяне ёсць – гэта родныя людзі побач. З прыемнага матэрыяльнага дапаўнення – новы аўтамабіль, тэлефон і асобнае жыллё ад бацькоў, хай пакуль і не ўласнае.



**Максім Радына, рабочы, Валожын:**

– Набыў дрон і тэлефон. З нематэрыяльных – пераканаўся ў тым, што сябры, якія мяне акружаюць, – сапраўдныя. Пачаў больш увагі надаваць бацькам і блізкім. Стаў шанаваць і любіць сваю дзяўчыну яшчэ мацней.



**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

## Чытайце праз тыдзень:

- Працягваем распавядаць гісторыі пра беларусаў, якія з'ехалі ў пачатку 20 стагоддзя ў ЗША. Чытайце пра лёс яшчэ аднаго чалавека ўжо ў наступным нумары!

## Чалавек без газеты – як дрэва без лісця. Падпішыся на «РГ»!



### Падпісацца на «РГ» можна:

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Цiснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета».

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**

- на месяц – 4 рублі 90 капеек;
- на квартал – 14 рублёў 70 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 15 рублёў;
- на квартал – 45 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

## 11 студзеня, субота

**Вецер:** паўночны, 6-8 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература -20,6°C у 1980 годзе
Максімальная тэмпература +9,8°C у 2005 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 7,5 мм у 1982 годзе

Паводле meteoinfo.by.


Рэгіянальная газета. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№2 (1289) 10.01.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 31. Падпісана ў друк у 9.00 9.02.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.